


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714



Радасных і шчаслівых Свят Божага Нараджэння, здароўя і моцы жадае рэдакцыя „Нівы”. Няхай свята Божага Нараджэння асветліць Ваш дом!

http://niva.iig.pl
redakcja@niva.iig.pl

№ 52 (2954) Год LVII | Беласток, 23 снежня 2012 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# Юбілейны XV „Дэбют”

Тэкст і фота Агаты АРЛЯНСКАЙ

**Завяршыўся чарговы агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы сарганізаваны „Нівай” і Беларускім саюзам у Польшчы. На працягу конкурсу (пачаўся ў 1996 годзе) прыняло ўдзел 490 асоб. Сёлета, падобна як у 2001 годзе, уражвала найбольшая колькасць канкурсантаў (47 камплектаў прац, 44 удзельнікаў), ад 2002 г. разгляданых у дзвюх узроставых катэгорыях — I група — дзеці і моладзь пачатковых школ і гімназій і II — вучні сярэдніх школ і дарослыя. У апошнім выпуску прыняло ўдзел 17 творцаў з першай групы і 30 з другой, у тым ліку 18 дэбютантаў; з першай — 11, з другой — 7.**



Частка ўдзельнікаў „Дэбюту”. Першы злева (кленчыць) — Станіслаў Дамброўскі, другая справа ў другім радзе — Уршуля Шубзда

Першы раз прыслала свае літаратурныя спробы гімназістка з Міхалова, у якім аднавілася навучанне беларускай мовы; з Міхалоўскай гміны таксама адзін з вылучаных паэтаў. Дзве асобы прыслалі свае творы з Сямятыччыны (Жэрчычы Нурэцкай гміны і Сямятычы), па адной з Сухавольскай і Дуброўскай гмін Сакольскага павета. Што ні дзіўна, толькі па адным было прадстаўніку Нарваўскай, Чаромхаўскай і Бельскай гмін, прытым таксама адзіны ліцэіст у конкурсе. Пераўзышла ўсіх Нараўчанская гміна, з якой працы — паэтычныя і празатарскія — прыслала аж 20 пражываючых там аўтараў, у тым ліку трох (з ліку чатырох) студэнтаў, што цікавае — не філалогіі, а лясніцтва, ветэрынарыі і еўрапеістыкі. Да віднага поспеху спрычыніліся настаўніцы беларускай мовы ў Комплексе школ у Нараўцы Ліля Тарасевіч і Анна Кандрацюк, якія заахвоцілі сваіх вучняў да пісання на роднай мове, а таксама задбалі пра тое, каб усёй грамадой удзельнікі конкурсу далучыліся да святкавання юбілею „Дэбюту” (у транспарце дапамог войт Нараўчанскай гміны Мікола Павільч). Сёлета і Гарадоцкая гміна мела гонар мець больш шматлікую рэпрэзэнтацыю ў конкурсе, у тым ліку дэбютанта з Сафіпаля, пераможцу ў катэгорыі паэзіі.

Сярод аўтараў былі і земляробы — Мікалай Лук'янюк з Бялкоў Нарваўскай гміны, Анатоль Парэмбскі (Станцыя Валілы), Ян Міхалюк (Чыжы), гаспадыня — Галіна Радуха з хутара Астрове на Дуброўшчыне, працаўніца грамадскай апекі ў гміне Аліна Леанеўская з Пасек Нараўчанскай гміны, будаўнік Станіслаў Дамброўскі з Сафіпаля Гарадоцкай гміны, настаўнікі — актыўныя і пенсіянеры — Ніна Бручко-Анджэюк з Беластока, Мікалай Варанецкі з Альхоўкі, Славамір Кулік і Вера Масайла з Гайнаўкі, Янка Федзюкевіч з Гарадка (раней з Баброўнік), чыгуначнік Уладзімір Сідарук з Кузавы ў Чаромхаўскай гміне, майстры на ўсе рукі Сцяпан Карбоўскі з Гайнаўкі і Язэп Карпюк з Сямятыч, нянечка ў гайнаўскай бальніцы Ірэна Лукша, пенсіянеры Валя Мядзведзь з Беластока (былая рабочая), былая прадаўшчыца Зінаіда Кандрацюк, грамадскі дзеяч і харыст Пятро Крук, аніматарка культуры і спявачка Надзея Карчэўская з Жэрчыч, пенсіянер-чыноўнік Анатоль Маўчун з Познані, выпускніца гебраістыкі — матушка Аляксандра Саснова... Як відаць, незалежна ад прафесіі і адукацыі пісьменнікі-аматары, з ліку якіх выйшла некалькі асоб, у якіх ёсць ужо свае літаратурныя дасягненні, даказваюць на роднай мове, што можна ў ёй выказаць свае пачуцці і інтэлектуальныя роздумы на тэму кандыцыі чалавека ў сучасным свеце, перш за ўсё беларуса.

З ліку дэбютантаў у сёлетнім выпуску найлепш адрэкамендаваліся „Зорачка” — Наталля Васько з Тарнопаля Нараўчанскай гміны (III месца ў I групе) і „Сафіполь” — Станіслаў Дамбоўскі з Сафіпаля Гарадоцкай гміны — I месца ў II групе. Журы захапіла незвычайнае майстэрства Дамброўскага ў словатворчасці.

— Я сам родам з Шымак Міхалоўскай гміны. Мая беларуская мова — вясковая, бо я яе не вывучаў у школе. Забыў крыху нашых слоў, некаторых даўно не чуў. Маю будаўнічую фірму ў Сафіпалі, крыю дахі. Прабаваў жыць у горадзе, але гэта не для мяне. Мне патрэбнае паветра, шырыня, лес. Сам я вучыўся ў прафесійнай дрэваапрацоўчай школе ў Гайнаўцы. Ахвотна кончыў бы і тэхнікум, але бацькам не стала, каб мяне далей адукаваць. А сам я адукуюся. Пісанне не залежыць ад адукацыі, ад школ, якія ты закончыў. Перш за ўсё стаўлю на саамадукацыю, на самастойнае здабыванне ведаў, чытанне. Буду вывучаць беларускую мову, дасканаліць і польскую. Хачу працаваць са словам.

Першае месца сярод маладзейшых атрымаў Лукаш Марчук з Нараўкі (размова з ім у „Зорцы”), III месца — „Зорачка” — Наталля Васько з Тарнопаля, вылучэнне — „Сонейка” — Наталля Марчук з Нараўкі. У другой групе ў галіне прозы першы прыз узяла студэнтка беларускай філалогіі ў Беластоку „Улька” — Уршуля Шубзда з Хадароўкі-Старое ў Сухавольскай гміне, трэці — „Зоя З.” — Аляксандра Саснова (Варшава). Вылучаны былі творы „Маці Іскерачкі” — Веры Масайла (Гайнаўка), „Паўлушы” — Паўліны Бяляўскай (Нараўка), „Дубчака” — Багдана Дудко (Цісоўка Міхалоўскай гміны). Была звернута ўвага яшчэ на творы Оленькі Яроцкай з Гарадка (I група), верш „Цяжкі ўспамін” Янкі Федзюкевіча з Гарадка, вершы „Максімаўны” — Веры Бручко-Анджэюк, творы з народнымі матывамі Надзеі Карчэўскай з Жэрчыч, лірычны абразок „Адна душа” „Юркавай” — Аліны Леанеўскай з Пасек Нараўчанскай гміны, фантастычнае апавяданне „Еватыпа і Касутрус” „Маліны” — Ірэны Лукшы з Гайнаўкі, аповед-успамін „Беструботнае дзяцінства” „Сідара” — Уладзіміра Сідарука з Кузавы.

— Я яшчэ толькі пачынаю пісаць, — сціпла прызнавалася студэнтка Уршуля Шубзда, якая ўжо больш за год супрацоўнічае з „Нівай” і якая пільна вывучае мову і працуе над яе дасканаленнем.

— Банальна сказаць, што гэта самы цяжкі шлях — працаваць у літаратуры, — тлумачыла сяброўка журы Надзея Артымовіч Уршулі Шубздзе і Кацярыне Сянкевіч, былой удзельніцы „Дэбюту” і ўжо аўтаркі кнігі. — Гэта значыць настойлівая самастойная праца, быццё ў культуры, і чытанне, чытанне, чытанне. Конкурс дае мажлівасць сканцэнтраваць свае сілы, дае магчымасць канфрантацыі. Гэта ёсць таксама і вялікая набілітацыя, і сам друк твораў у „Ніве” з'яўляецца вялікай узнагародай. Я памятаю свой дэбют на старонках „Нівы” ў 1970 годзе, калі пасля друку я проста лунала над Варшавай. А вас чакае праца, чытанне, праца над сваім беларускім словам.

Узнагароды фундавалі Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі, Маршалкоўская ўправа Падляшскага ваяводства, Саюз беларускіх пісьменнікаў, культурніцкая кампанія „Будзьма беларусамі” і „Ніва”.




Прадстаўніцы пераможнай Нараўчанскай гміны Вікторыя Патонец і Аліна Леанеўская з юбілейным тортам „Дэбюту”





# Ці ўбачым святло?

Ад размоў пра канец свету ўжо цягне на ваніты. Адны ствараюць істэрыю і палохаюць страшным апакаліпсісам, рыхтуючы паніку сярод насельніцтва, іншыя лёгкадумна і бясконца іранізуюць пра ўсё гэта, даходзячы да недарэчных і зусім нясмешных жартаў. А трэція досыць рацыянальна сцвярджаюць, што ён — гэты канец свету — ужо наступіў. Духавенства, святары розных канфесій, спасылаючыся на Святое Пісьмо, кажуць пра тое, што нікому гэтага апошняга дня знаць невядома. На тэлевізіі безліч праграм, якія прадстаўляюць розныя версіі гібелі нашай і так шматпакутнай планеты. У кожнага свая праўда і свая логіка. Найменш, аднак, гаворыцца пра асабістую адказнасць кожнага чалавека на гэтай зямлі, пра духоўнае напаўненне і сэнс існасці быцця.

З цывілізацыйнага пункту гледжання напэўна мы сапраўды назіраем канец Старога свету, сапраўднай еўрапейскай культуры. Вось прыклады апошняга часу. У Даніі ў адным са скандынаўскіх гарадкоў мусульмане, якія на мясцовых выбарах набралі большасць галасоў і ўзялі мясцовую ўладу (!), пастанавілі, што на Раство Хрыстова ўсталёўваць калядную ёлку на цэнтральным пляцы не трэба — маўляў, толькі лішнія выдаткі з бюджэту. Хіба гэта не канец свету для Даніі? У Брытаніі хрысціянскай сям'і, якая хацела ўсынавіць дзіця, не дазваляюць гэтага зрабіць на той падставе, што гэтыя прыёмныя бацькі адмаўляюцца падпісаць нейкую бязглуздую дэкларацыю, прыдуманую чыноўнікамі. Паводле яе пры выхаванні сына яны мусяць тлумачыць яму панятак „гомасексуалізм" і тлумачыць менавіта так, як гэта ўсталявала дзяржава — з дасłоўнымі вызначэннямі. Хіба гэта не канец свету для Вялікабрытаніі? З гэтымі „сексуальнымі меншасцямі" ў Еўропе падурэлі зусім. Адбылася падмена сапраўднай талерантнасці да людзей іншай арыентацыі. Замест яе навязваецца татальная разбэшчанасць і культ распусты. Калі чалавек ужо не мае права на свае погляды і вобраз жыцця, мусіць падпарадкоўвацца абсурднай дзяржаўнай ідэалогіі. Аб'яднаную Еўропу непазбежна спасцігне крах, па-сутнасці, ён ужо назіраецца. Менавіта так гінулі цывілізацыі старажытных Грэцыі і Рыма. Нічога новага тут з гістарычнага гледзішча няма.

Як гэта не дзіўна, але Беларусь у нечым таксама ідзе ў нагу з Еўропай. А менавіта ў кірунку знішчэння нацыянальных каштоўнасцей. Тут мы наперадзе планеты ўсёй. Сказана і напісана пра гэта ўжо нямала. Але няма межаў праявам нацыянальнага нігілізму і абразаў у бок тых, хто яшчэ ёсць беларусамі. Усіх пераплюнула тыдзень таму „журналістка" галоўнай дзяржаўнай газеты, якая наўпрост заявіла ў дачыненні да беларускай мовы і яе носьбіта: „ненавіджу!". Менавіта такіх хамскіх выpадкаў і вырошчвае дзяржава з абрэвіятурай РБ, якая існуе на тэрыторыі Беларусі. Гэта ўжо не проста нейкія антынацыянальныя погляды, гэта біялагічная рэакцыя на роўні падсвядомасці. Яна дастаткова распаўсюджаная. Думаю, што з такім фанабэрыстым смяшком сутыкаўся кожны беларускамоўны чалавек. Хіба гэта не канец свету для Беларусі? Яднае Беларусь з Еўропай і спажывецкая псіхалогія — наш чалавек гатовы задушыць бліжняга за долар — абы ўрваць сабе, абы ўхапіць нешта на халяву. І так бальшыня жыве з году ў год, аж да канца свайго кароткага жыцця, не задумваючыся пра тое, што ў сырую халодную магілу не забярэ сваіх матэрыяльных багаццяў, што ўвесь іхны скарб пойдзе пылам.

А тут якраз пайшлі моцныя снягі, якія хутка амаль паралізавалі транспартныя шляхі, засыпалі дамы і ўсе „гаспадары жыцця" яшчэ раз могуць пераканацца ў тым — наколькі слабы чалавек перад прыроднай стыхіяй, перад вышэйшай невядомай сілай, перад тым, што можа адбыцца з кожным і з усімі разам. Але чалавецтва, як супольнасць, хіба няздольная схамянуцца і пачаць выратаванне самой сябе. Ці ўбачым мы святло перад самым канцом свету?..

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**



# Вартавыя дзяржавы

У Беларусі ўлады прымянілі зусім адваротны метад чым у Польшчы — спакушаючы грамадзян рознымі прывілеямі і бонусамі, заахвочвалі іх добраахвотна пераўвасобіцца ў рэжымных функцыянераў. І як ні дзіўна тэмп, з якім грамадзяне сталі пераўвасабляцца — дадамо, што спантанна і нязмушана — быў такім маланкавым, што праўдападобна беларусы сталі б ужо за 10 гадоў першым у гісторыі свету народам функцыянераў, прытым пачынаючы ад немаўляці да склерознай бабулькі, ад гіперактыўнага ўнучка да расчараванага дзядулі. Для Беларусі значыла б гэта столькі, што стала б яна гіперабшчыннай арганізацыяй, падобнай да тае, якая экзістуе ў тэрмітніку. Толькі што тэрмітамі кіруе плодная каралева, што ў пару прымусіла Аляксандра Лукашэнку задумацца і зрачыся ролі пастарэлага трутня. І неадкладна, калі ён усвядоміў сабе вынікі далейшага тэрмітавання беларусаў, абвясціў паўсюднае скарачэнне функцыянераў.

Для спраўнага функцыянавання дзяржавы неабходныя так бачныя, як і нябачныя функцыянеры. Аднак, больш тыя другія. Перш за ўсё таму, што без іх пільнай наяўнасці грамадзяне ўлезлі б дзяржаўнай уладзе на галаву. У гэтым месцы трэба паставіць рэзкую мяжу паміж дзяржавай і ўладай. На жаль, кожная ўлада выяўляе схільнасць да атаясамлівання з дзяржавай, а ў крайніх выпадках нават да цалкавітай ідэнтыфікацыі з дзяржавай. Гэта ані дзіўнае, ані асаблівае. Такая натура ўлады і гэта мусіць прымаць пад увагу кожнае грамадства. Асабліва беларускае грамадства, якое сваім прэзідэнтам выбрала Аляксандра Лукашэнку. Як вядома мае ён праблему з разуменнем ці ён асоба, ці дзяржава. Калі, аднак, частка грамадзян выяўляе тупагаловасць і не патрапіць паняць, што дзяржава і ўлада гэта рэверс, а Лукашэнка гэта аверс дзяржаўнага твора званага Беларуссю, дык вось зусім адваротныя бакі тае манеты, калі не пераконвае іх да гэтага ані слоўнае пераконванне, ані нават прымітыўнае збіванне дубінкамі, тады ў акцыю мусяць уступіць нябачныя функцыянеры, прымяняючыя далікатныя аперацыўныя тэхнікі. Але каб іх спраўна правесці, не могуць яны вылучацца ў тлуме і тады абавязкова пазбягаюць усялякага форменнага адзення. У Польшчы гэта ідзе яшчэ далей, што паказвае прыклад агента Томка, які ў час выконвання службовых абавязкаў, дарачных яму тагачаснай уладай, адмовіўся ад якіх-небудзь апранах для праверкі сапраўднасці сваёй агентурнай нябачнасці. Без сумнення, пераборшчыў у сваёй пільнасці — праўдападобна таму, што атрымаў заданне аголення крывадушнасці апазіцыйных палітыкаў у адносінах да тагачаснага ўрада. Агаляўся тады нябачна, каб было незаўважна, абнажыўшы свой торс, аж дачакаўся заслужанай пенсіі і на канец у спелым, саракагадовым узросце стаў бачным у самым модным і найбольш рафінаваным касцюме, дзякуючы якому атрымаў дэпутацкі білет. Не без прычыны шэпчуцца ў Сейме, што калі ён прамаўляе з сеймавай трыбуны, дык цяжка пазнаць хто так недарэчна шалясціць — ці Томак, ці ягоны касцюм. Ды хай там з Томкавым касцюмам. Праз польскі Сейм прабацілася ўжо нямала парожніх палуб.

Ды каб толькі гаворка была пра бяспеку! Таксама ў пытанні беспрацоўя беларускія ўлады паказваюць адпаведную бераджлівасць. Калі яно ў Польшчы двухзначнае, у Беларусі паказвае нездаровую эканамічна, хаця пажаданую грамадствам схільнасць да нулявога паказчыка.

Паказчык непрацуючых у гэтай краіне грамадзян ужо шмат гадоў таму ўкараніўся на нулявым узроўні і ані здрыганецца. У значнай ступені дзякуючы таму, што амаль уся гаспадарка Беларусі належыць дзяржаве. А дзяржаве, будучай агульнакраёвым вытворчым прадпрыемствам, якое абапіраецца на планавую эканоміку, усё роўна ці вырабам гайкі займаецца адзін ці дзесяцёх рабочых; дзяржаве залежыць на шчасці грамадзян. У Польшчы, у якой дзяржаўную ўласнасць разрабавалі замежныя капіталісты, паказчык беспрацоўя ўжо даўно перасягнуў 13%, а мабыць неўзабаве дойдзе да 20%. Глабальныя капіталісты, як вядома, шчасце грамадзян невялікай фабрыкі, званай Польшча, маюць у... дзе прытрапіцца; для іх лічыцца не так гайка, якую лёгка прадаць як не ў Еўропе, дык у Афрыцы, што кошт яе вырабу. Пачынаючы з сельскіх гаспадарак, а канчаючы на вялікіх прамысловых прадпрыемствах. І гэта дзяржава ведае, колькі трэба зрабіць гаек...

**Міраслаў ГРЫКА**

Вачыма еўрапейца

# У нас, значыць — у каго?



Нават вядомая сацыёлаг прафесар Ядвіга Станішкіс, якая ахвотна маніфестуе свае правыя погляды і сімпатыю да старшыні Права і справядлівасці Ярослава Качынскага, у апошні час не хавала: „Параўноўванне статусу палякаў прабываючых у Нямеччыне з аўтахтонамі з Апольскай Сілезіі гэта непаразуменне. Хутчэй павінен параўноўваць (Ярослаў Качынскі — М. Х.) да таго, чаго хочам для палякаў у Літве, таму што наша меншасць мае падобны статус, якога хочам для іх".

Гэтая заява для польскага тэлебачання і шырокая крытыка, якая праляцела праз Польшчу, датычыла думкі лідара ПіС, які ў Аполі крытыкаваў быццам бы прывілеі, якія нямецкая меншасць мае ў Польшчы. Гаварыў ён: „Калі ПіС дойдзе да ўлады, дык будзе прымяняцца прынцып: столькі ж правоў для немцаў у Польшчы, колькі правоў палякаў у Нямеччыне".

І хаця я не быў на апольскай сустрэчы, дык мог пагадзіцца з прафесар Станішкіс, што СМІ, мабыць, зрабілі больш рэзкім выказванне старшыні Качынскага, хаця самога факту, што самыя сцвярджэнні прагучалі, гэта не змяняе. Зацікавіла мяне тут у медыйным кантэксце перадача, якую на гэтак званай „адзінцы" паказалі „Wiadomości" публічнага тэлебачання. Журналіст перадаваў: „Гэтых правоў, на думку старшыні ПіС, нямецкая меншасць мае ў нас зашмат. У час, калі нямецкія ўлады палякаў за Одрай трактуюць больш-менш як (тут гучыць выказванне Ярослава Качынскага): „Не будзе ніякіх правоў для польскай меншасці, таму што палякі лёгка асімілююцца і гэта тое, на чым нам залежыць, карацей казаўшы германізуем палякаў".

Далей журналіст: „Гэтыя словы абурылі нямецкую меншасць у Польшчы (...). Пагрозлівае на думку старшыні тое, што нямецкая меншасць мае ўказальнікі з двухмоўнымі назвамі мясцовасцей, а нават цэлыя нямецкамоўныя школы, прадстаўнікоў у парламенце і ў ваяводскіх уладах, як напрыклад на Апольшчыне. (Далей тут уключана выказванне Ярослава Качынскага — М. Х.). „Я пераканаы ў тым, што думка тут пра тое, каб тыя землі ў такі ці іншы спосаб, проста ці нейкім пасрэдным метадам, вылучыць з Польшчы".

Для мяне відавочнае, што — прымяняючы далікатную мову прафесар Станішкіс — заява лідара ПіС гэта непаразуменне. Беларусам у Польшчы не трэба гэтага тлумачыць. Аднак з агромным здзіўленнем, мяжуючым з трывогай, пачуў я ў тэлеперадачы словы журналіста, канчаючыя матэрыял у найбольш уплывовай інфармацыйнай тэлепраграме:

— Падобна ёсць у выпадку палякаў пражываючых у Беларусі. Нашы землякі жывуць там ад вякоў, а шмат беларусаў перасялілася ў Польшчу нядаўна па палітычных ці эканамічных прычынах.

Што вы на гэта скажаце, беларусы Падляшша, Польшчы?

Да таго апошні сказ (разыначка) прагучаў наступным чынам:

— А мы ж змагаемся за правы палякаў на Усходзе, не абмяжоўваючы правоў літоўцаў, беларусаў ці ўкраінцаў, пражываючых у нас.

Пытаюся. У нас, значыць, у каго? Літоўцы, беларусы, украінцы паднаймаюць сабе прастору ў Польшчы? Раздумваю, колькі гадоў трэба тлумачыць, што мы ў сябе (між іншым быў гэта нават лозунг адной з самаўрадавых выбарчых кампаній беларускай меншасці ў Польшчы). Папрасіў я даць каментар да заяў журналіста „Wiadomości" ў Яўгена Вапы, галоўнага рэдактара „Нівы", старшыні Радыё Рацыя, старшыні Беларускага саюза ў Польшчы, на канец члена Супольнай камісіі ўрада і нацыянальных меншасцей (СКУіНМ):

— Гэта сведчыць аб тым, што адукацыя аб нацыянальных меншасцях у Польшчы не прыносіць вынікаў таксама калі гаворка аб журналістах публічнага тэлебачання. Калі журналісты найважнейшай інфармацыйнай праграмы не ведаюць, што беларусы не з'явіліся тут нядаўна, а жывуць тут ад стагоддзяў і яны ў Польшчы ў сябе, на сваёй зямлі, і ўвогуле пярэчаць нашай тут прысутнасці, дык думаю, што гэтай справай павінна заняцца сеймавая Камісія нацыянальных і этнічных меншасцей, Камітэт абароны правоў чалавека і будзе гэта тэмай пасяджэння СКУіНМ. Таксама і я буду аб гэтым гаварыць.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Даніна памяці Ларысе Геніюш

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

**Ларыса Геніюш была і ёсць вялікай беларускай паэтэсай і вялікім чалавекам у сэнсе змагання ў карысць беларускай нацыі і індывідуальных людзей. Жыццё Ларысы Геніюш гэта пастаянная і бескампрамісная праца ў карысць свайго грамадства, нягледзячы на вялікую асабістую цану, якую мусіла заплаціць у савецкіх вязніцах, лагерах і нават у роднай Беларусі пад наглядам спецслужбаў. У Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы 11 снежня сабраліся перш за ўсё мясцовыя беларусы, каб ушанаваць памяць Ларысы Геніюш пры нагодзе прэзентацыі яе ўспамінаў «Птушкі без гнёздаў».**



Перад сабранымі выступалі (злева) Міхал Геніюш, Лена Глагоўская і каардынатар праекта Яраслаў Іванюк

Успаміны пераклаў на польскую мову Чэслаў Сэнюх. Да кніжкі далучанае на кампакт-дыску аўдыёвыданне на беларускай мове. Кніжка выдадзена ў рамках праекта «Памяць па-над часам і межамі», які рэалізуе Беларускае гістарычнае таварыства з фінансавай падтрымкай Дэпартамента публічнай і культурнай дыпламатыі Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Польшча. Спатканне ўдастоілі ўнук паэтэсы Міхал Геніюш, гісторык доктар Лена Глагоўская і бард Алесь Камоцкі. Сустрэчу вёў дырэктар Радыё Рацыя Яраслаў Іванюк, а наладзіла яго БГТ з дапамогай белмузея. Пасля падобная сустрэча адбылася ў Музеі ў Бельску-Падляшскім.

— Мы спаткаліся тут, каб ушанаваць памяць Ларысы Геніюш і прамаваць кніжку яе ўспамінаў, — сказаў Яраслаў Іванюк, каардынатар праекта.

На сустрэчу не змог прыбыць перакладчык Чэслаў Сэнюх. Сабраныя маглі толькі паслухаць запіс яго выказвання. Звярнуў ён увагу на цяжкія выпрабаванні, якія перанесла ў сваім жыцці вельмі эмацыянальная, але адначасна стойкая жанчына Ларыса Геніюш, застаючыся да канца вернай ідэалам вольнай Беларусі. Напомню, што ў 1943 годзе, на аснове тэстамента прэзідэнта БНР Васіля Захаркі, Ларыса Геніюш была прызначана на пасаду генеральнага сакратара ўрада Беларускай Народнай Рэспублікі на эміграцыі. Пражываючы ў Празе, паэтэса займалася, між іншым, упарадкаваннем і забеспячэннем архіва беларускага эміграцыйнага ўрада. Апекавалася таксама беларускімі эмігрантамі, палітычнымі ўцекачамі і ваеннапалоннымі. Хаця пасля вайны Ларыса і Ян Геніюшы атрымалі чэхаславацкае грамадзянства, то ў 1948 годзе іх у Чэхаславакіі арыштавалі і перадалі ў Савецкі Саюз. Паэтэса пабывала ў савецкіх турмах, між іншым у Мінску, дзе жорстка дапытвалі яе і патрабавалі перадаць саветам архіў Беларускай Народнай Рэспублікі, але безвынікова. Прыгаварылі Ларысу Геніюш і яе мужа на 25 гадоў савецкіх лагероў. Таксама трагічна склаўся лёс сям'і Ларысы Геніюш. Калі Чырвоная Армія ў 1939 годзе ўвайшла ў Заходнюю Беларусь, бацьку Ларысы, Антона Міклашэвіча, арыштавалі і расстралялі, а маці і дзвюх сясцёр выслалі ў Казахстан, дзе маці памерла. Адзін брат Ларысы Геніюш, салдат арміі Андэрса, загінуў у бітве пад Монтэ-Касіна ў Італіі, а другі, змагаючыся ў радах Чырвонай Арміі, загінуў каля Берліна.

— Літаратуразнавец Аляксей Пяткевіч гаварыў, што Ларыса Антонаўна павінна быць уключана ў лік беларускіх святых і нават была паднятая ініцыятыва ў гэтым напрамку, — заявіў Яраслаў Іванюк.

Гісторык доктар Лена Глагоўская, якая напісала гістарычны каментарый да кніжкі, у час спаткання звярнула ўвагу на бытавыя абставіны ў лагерах, у якіх прыйшлося жыць беларускай паэтэсе. Ларысу Геніюш называлі ў гулагу *маці*, а яе вершы зняволеныя завучвалі на памяць, як малітвы. Звольнілі сужонства Ларысу і Яна Геніюшаў у 1956 годзе, на хвалі пасляСталінскай адлігі і сталі яны жыць на мужавай радзіме, у Зэльве. Хаця Яну Геніюшу дазволілі працаваць лекарам у раённай паліклініцы, а паэтэсе — працаваць медсястрой, да канца жыцця былі яны пад наглядам савецкіх спецслужбаў. Калі Ян Геніюш памёр у 1979 годзе, Ларыса Геніюш атрымала невялікую пенсію, але ўлады так і не дазволілі ёй паехаць да сына Юркі, які жыў у Беластоку. Увесь час Ларыса Геніюш праяўляла вялікую любоў да Беларусі і адказвалася ад савецкага грамадзянства. Памерла ў Зэльве ў 1983 годзе і там была пахаваная. Паэтэсу праводзілі ў апошні шлях тысячы зэльвенцаў. Хаця называюць Ларысу Геніюш святой пакутніцай і ў 1999 годзе Беларускі Хельсінскі камітэт звярнуўся ў Пракуратуру Беларусі аб адмене несправядлівага прысуду ў адносінах да Ларысы і Яна Геніюшаў, зварот гэты пракуратура накіравала ў Вярхоўны суд, адкуль прыйшла адмова.

— Калі я думаю пра Беларусь і беларусаў, то плакаць хочацца. Тое, што пражылі беларусы, хіба ніводзін народ не пражыў. Тое, што працярпела і церпіць беларуская інтэлігенцыя, гэта галгофа. Ці можа быць яшчэ горш, як здарылася з сям'ёй Ларысы Геніюш. Нібы суседзі спачуваюць Беларусі з-за складанай гісторыі, але ж і ад суседзяў прыходзілася беларусам цярпець, — заявіў Васіль Сакоўскі, былы настаўнік беларускай мовы Гайнаўскага белліцэя, які добра ведае лёс Ларысы Геніюш і яе паэзію.

— Я ведала Ларысу Геніюш як вялікую паэтэсу і думала пра яе як пра ікону, а сёння многа даведалася пра яе як пра чалавека, — сказала пасля ўспамінаў Міхала Геніюша настаўніца беларускай мовы ў Гайнаўскім белліцэі Іаланта Грыгарук.

У час спаткання паявілася пытанне наконт загалоўка «Споведзь», пад якім раней былі выдадзены на беларускай мове ў Мінску ўспаміны Ларысы Геніюш. Міхал Геніюш, які быў сааўтарам загалоўка нававыдадзенай кнігі, гаварыў, што слова «споведзь» не падыходзіць да загалоўка кніжкі, бо спавядаюцца людзі віноўныя, а яго бабуля не была віноўнай. Не было ў яе свайго гнязда, што стала штуршком для загалоўка кніжкі.

— Нам удалося дайсці да арыгіналу ўспамінаў Ларысы Геніюш і ён быў без загалоўка. Толькі лацінкай было напісана слова «Успаміны», а паэтэса пісала кірыліцай. Загаловак «Птушкі без гнёздаў» датычыць пакалення беларусаў перыяду Ларысы Геніюш, якія былі расцярушаны па свеце як птушкі без гнёздаў, — заявіў Яраслаў Іванюк, дабаўляючы, што ўспаміны і аўдыёвыданне не паказаліся б без дапамогі сям'і Ларысы Геніюш.

У новым выданні было выкарыстана шмат фатаграфій, дакументы і ліст да ўнука з сямейнага архіва, якія ў час спаткання прэзентаваліся на вялікім экране. У наступным годзе будзе адзначацца 30-годдзе з дня смерці паэтэсы, але на жаль яе творчасць замоўчваецца беларускімі ўладамі, не ўшанаваная яе праца ў карысць айчыны.

— Я многа часу праводзіў у бабулі ў Зэльве і там яна выхоўвала мяне. Мая бабуля Ларыса была жанчынай аддадзенай сваёй нацыі і роднай мове. Выдадзеная кніжка паказвае, як яна любіла людзей, свет, праўду і змагалася за яе. Людзей не дзяліла яна паводле нацыянальнасці або веравызнання, але на добрых і дрэнных. Бабуля не ненавідзіла ворагаў, але была сумнай, што ёй людзі дрэнна рабілі і трымалася прынцыпу, што чалавек павінен быць другой асобе чалавекам, — расказваў унук Ларысы Антонаўны Міхал Геніюш. — Мая бабуля навучыла мяне быць чалавекам і вучыла змагацца за праўду. Важна, што бабулю не зламалі і яна да канца засталася верная сваім ідэям. У Зэльве ўсе любілі бабулю Ларысу, многія прыходзілі віншаваць яе з днём народзінаў, асабліва пісьменнікі тады прыязджалі. Аднак паявіліся плёткі наконт жыцця бабулі і мы рашыліся сабраць успаміны і паказаць яе жыццё, каб людзі самі ацанілі, якім бабуля была чалавекам. Я думаю, што інтэлігентны польскі чытач павінен зразумець бабуліны запаветы, з якімі яна звяртаецца ва ўспамінах, але перш за ўсё бабуля была паэтэсай. Яе вершы гавораць аб любові да зямлі, людзей і да радзімы.



Алесь Камоцкі праспяваў песні на вершы Ларысы Геніюш

— Я асабліва добра ўспамінаю сустрэчы з Юркам Геніюшам (сын Ларысы Геніюш — А. М.), з якім я ездзіў па вёсках, дзе жылі беларусы і мы рабілі там здымкі. Юрка таксама цікавы пісьменнік і мне падабаюцца яго апавяданні, — заявіў наш карэспандэнт Янка Целушэцкі з Ляўкова.

Усе ўдзельнікі спаткання, на якое прыбылі гайнаўскі бурмістр Ежы Сірак, старшыня фонду «Царкоўная музыка» Мікола Бушко, дырэктар Публічнай бібліятэкі ў Гайнаўцы Галіна Вайсковіч, дырэктар белмузея Тамаш Ціханюк, людзі культуры, настаўнікі і прадстаўнікі іншых прафесій атрымалі па кніжцы «Птушкі без гнёздаў» з аўдыёвыданнем на кампакт-дыску, якое агучыла народная артыстка Беларусі Зінаіда Бандарэнка. Побач гайнавян убачыў я ў белмузеі таксама людзей з навакольных вёсак, напрыклад, спевакоў беларускага калектыву з Махнатага. У час спаткання ўспаміналася таксама пра багатую і цікавую творчасць Ларысы Геніюш, выдадзеную ў розных зборніках, а песні на вершы Ларысы Антонаўны праспяваў бард Алесь Камоцкі, што наблізіла дух творчасці беларускай паэтэсы. Трэба спадзявацца, што ўспаміны Ларысы Геніюш, якія трымаюць чытачоў у напружанні, выклікаюць яшчэ большае зацікаўленне яе паэзіяй.

## По гарачых слядах

23 лістапада г.г. у Гайнаўскім доме культуры з нагоды Дня пачэснага донара адбылася сустрэча з заслужанымі і пачэснымі донарамі Гайнаўшчыны. Быў я на ёй і рабіў здымкі. Здолеў я запісаць прозвішчы найбольш заслужаных донараў Агнешкі Бушко, Марціна Дамінскага, Кшыштафа Карпюка і Мікалая Петручука. Ім уручылі значкі „Заслужаны пачэсны донар" І ступені. Значкі „Заслужаны пачэсны донар" ІІ ступені атрымалі 11 асоб і значкі ІІ ступені — 59. Не ўдалося мне запісаць прозвішчы чарговых узнагароджаных асоб.

26 лістапада г.г. наведаў я бюро старшыні Раённага аддзела Польскага чырвонага крыжа ў Гайнаўцы — Галіны Мішчук і папрасіў, каб назвала мне прозвішчы найлепшых донараў для публікацыі ў „Ніве". Старшыня Аліна Мішчук і яе намесніца Лідзія Саевіч сказалі, што яны не маюць права даць мне прозвішчы донараў і спасаліся на закон аб ахове персанальных даных. Я спытаўся, ці чыталі яны змест таго закону і пачуў адказ, што не. Спадарыня Л. Саевіч заявіла, што яшчэ сёння пазнаёміцца са зместам вышэйзгаданага дакумента. Я атрымаў нумар тэлефона кіраўнічкі бюро Падляшскага акруговага праўлення Польскага чырвонага крыжа ў Беластоку Альжбеты Пашкоўскай.

3 снежня г.г. я зайшоў у беластоцкае бюро Польскага чырвонага крыжа да Альжбеты Пашкоўскай.

— O-o-o! To pan! Ja już wszystko wiem! — ускрыкнула кіраўнік. — Nie mam czasu deliberować z panem. Do widzenia.

Было гэта для мяне нечаканасцю. Такой варожасці ў адносінах да мяне я не спадзяваўся ад чыноўніцы.

Я хацеў напісаць пра людзей, якія ахвяроўваюць сваю кроў, каб ратаваць жыццё хворым. Кроў — лякарства незаменнае. Пачэсныя донары крыві не прадаюць за грошы. Яны аддаюць яе ад шчырага сэрца, добраахвотна. Трактуюць гэта як гуманітарны абавязак. Належыцца ім вялікі гонар і пашана. А тут вось табе на! Чыноўніцы хаваюць прозвішчы заслужаных донараў у сваіх папках...

Няўжо гэта, што я хачу здабыць, з'яўляецца парушэннем закону аб ахове персанальных даных? У главе 3 а, артыкул 2 згаданага закону напісана, што закон не прымяняецца да журналісцкай дзейнасці (у адпаведнасці з законам аб друку) і да літаратурнай ды мастацкай дзейнасці пры ўмове, што свабода выказвання сваіх поглядаў і распаўсюджванне інфармацыі значна не парушаюць праў і свабоды асобы, якой яны тычацца".

І дзе тут было б „парушэнне закону аб ахове персанальных даных", пані кіраўнік А. Пашкоўская?

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

## СПАЧУВАННІ

З Марыяй Хлябіч, Нінай і Міхалам ды Верай Казберукамі па прычыне напаткаўшага іх гора — смерці бацькі і мужа **МІКАЛАЯ КАЗБЕРУКА** — смуткуюць жыхары вёскі Рыбакі Міхалоўскай гміны.

# Благаслаўлёныя вечары



„Жэмэрва"




Гаспадары мерапрыемства (злева): а. Лявонцій Тафілюк, а. Пётр Снарскі і Сяргей Лукашук

■ Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН

Бельскія набожныя жанчыны пенсійнага ўзросту з'явіліся у тамашнім доме культуры заранёў да афіцыйнага адкрыцця сёлетніх, ужо XI Вечароў царкоўнай музыкі. Гэта надзейныя памочніцы айца Пятра Снарскага, якія бескарысна заняліся, між іншым, арганізацыяй вячэры ўсім удзельнікам і гасцям мерапрыемства. У падрыхтоўку поснага стала ўклалі яны ўсё сваё сэрца, клапоцячыся не толькі пра дастатковую колькасць, але і асаблівую эстэтыку прынесенай з уласных хат ежы. Адказныя жанчыны справіліся са сваёй працай яшчэ да пачатку канцэрта, стараючыся не прапусціць ні аднаго з запланаваных выступленняў. Як сапраўдным гаспадыням належыць, яны не занялі і так недастатковай колькасці сядзячых месц у глядзельнай зале, толькі прыселі на крэселках за сцэнай. Усё ж такі выступаючым, прынамсі некаторым, перадалася іх шчырая і моцная падтрымка. Удзельнікамі вячэрняга канцэрта сардэчна заапекаваўся таксама айцец Пётр Снарскі, якому прыходзілася безупынна дзяліць сваю ўвагу паміж шматлікай публікай і жыццём за сцэнічнай заслонай. Менавіта ён, прадстаўнік Дэканальнага інстытута праваслаўнай культуры ў Бельску-Падляшскім першым выйшаў на сцэну Бельскага дома культуры вечарам, 9 снежня.

Тады прагучэлі словы: — Кожная добрая справа пачынаецца малітвай, таму давайце ўсе разам заспяваем „Цару Нябесны". У тры снежаньскія, халодныя вечары пачуем царкоўную музыку з нашых багаслужбаў. Праўда, далёка не ўсе наведваюць Дом Божы. Але ж Бог ёсць усюды і чуе нашыя малітвы, дзе б мы не знаходзіліся. Таму спявайма Яму, дзякуйма за дараванае жыццё і часта кепскае здароўе, за гэты вечар і ўсе дні, напоўненыя радасцю і слёзамі. Царкоўны спеў уводзіць у нашы сэрцы спакой і гармонію, якая спалучае неба з зямлёю, нас з Тварцом, спрыяе задуме над штодзённымі праблемамі. Няхай тыя асаблівыя вечары натхняюць нас да працы ў імя Бога і людзей. Няхай напоўняць нас страхам Божым і даруюць сілы супраціўляцца ўсім складанасцям лёсу.

Голас узяў таксама і суарганізатар мерапрыемства — дырэктар Бельскага дома культуры Сяргей Лукашук. Ён падзякаваў усім прысутным за вялікае зацікаўленне гэтай, ужо адзінаццацігадовай, імпрэзай. Прывітаў усіх сабраных на чале са святарамі і ўладамі горада, у тым ліку бельскую віцэ-бурмістр Марціну Шымчук і сакратар горада Тамару Карыцкую. Папрасіў прабачэння, што не ўсім ёсць дзе прысесці, абяцаючы ў будучыні залу для чатырох соцень гледачоў. Айцу Пятру Снарскаму накіраваў словы шчырай удзячнасці за ініцыятыву стварэння гэтага мерапрыемства і ахвярнасць у яго арганізацыі. Вылучыў і сваю працаўніцу Альжбету Фіёнік за немалы ўклад у падрыхтоўку снежаньскіх вечароў царкоўнай музыкі.

Да сабраных прамовіў і бельскі дэкан айцец Лявонцій Тафілюк. Мерапрыемству пажадаў ён Божага благаслаўлення, а ўсім прысутным — напаўнення сэрцаў добрым, духоўным настроем у чаканні Божага Нараджэння.

Канцэртная праграма пачалася анёльскім спевам маладзёжнага хору бельскага прыхода Раждаства Хрыстова.

Васьмідзесяцішасцігадовы Міхаіл Аніпчук, які рашыўся адарвацца ад штодзённага тэлевізара, паспеў заняць адно з лепшых месц у глядзельнай зале. Побач сябе трымаў ён яшчэ крэсла для калегі. Чытачам „Нівы" прызнаўся, што да царкоўнага хору ніколі не належаў, але яго мама і баба былі пеўчымі і выконвалі духоўныя песнапенні нават у хаце. Ён не скрываў радасці, што спевы дзядоў і прадзедаў пераймаюць і паўтараюць маладыя. Менавіта для падтрымкі іх выступленняў ён тут і з'явіўся.

Другой па чарзе выступіла крынская „Заранiца" — дэбютант у бельскім мерапрыемстве. Пасля завяршэння апошніх акордаў да крынчанак падышла старэнькая бабуля з кіечкам. Моцна абняла дзяўчат і сказала дрыжачым ад хвалявання голасам: „Вялікае вам дзякуй. Мы пра вас не забудзем і вы не забывайце пра нас".

Прыйшоў час і на мясцовую, добра тут вядомую „Жэмэрву". Гэта асаблівы калектыў, у якім беларускае Падляшша выразна размалявана ў натуральнай прыгожасці маладых спявачак, іх вопратцы, галасах і рэпертуары. У гэты раз у іх выкананні прагучала, між іншым, песня да Пухлаўскай іконы Божай Маці, словы якой былі ўзяты са старога, рукапіснага зборніка Цімафея Садоўскага. Мелодыю „Жэмэрва" запісала непасрэдна ад жыхароў Пухлаў. Дзве старыя калядкі, праспяваныя ў гэтым канцэрце, падарылі ім жанчыны з калектыву „Крыўчанкі" з Крыўца.

На завяршэнне выступіў хор „Оморфос" Сямятыцкага дома культуры, які сабраў гучныя апладысменты.

За кубкам гарачай гарбаты і смачным посным пачастункам праходзіла другая частка мерапрыемства з удзелам гасцей-калектываў і гаспадароў.

Там „Ніва" пакарысталася нагодай асабістай сустрэчы з айцом Пятром, каб распытаць пра нараджэнне гэтай ініцыятывы.

— У 2000 годзе, — пачынае айцец Пётр, — Бог пакараў мяне і я трапіў у Варшаву на анкалагічнае аддзяленне. Пабяседаваўшы з наведваючай мяне ў шпіталі сяброўкай, я дайшоў да вываду, што калі Гасподзь змілуецца, астаўлю па сабе след на зямлі. Прыехаўшы з лячэбніцы, я звярнуўся да дырэктара Сяргея Лукашука з прапановай супольна арганізаваць сустрэчы з царкоўным спевам. Многа людзей дапамагае нам у гэтым. І так па Божай волі дачакалі мы ўжо адзінаццатага выпуску.

Альжбета Фіёнік наконт адметнасці бельскіх вечароў з царкоўнай музыкай сказала:

— Адна з мэт гэтага мерапрыемства — паказаць шырокай публіцы маленькія, вясковыя хары. Яны звычайна прэзентуюць асабліва цікавыя, старыя песні і мелодыі, якіх мы не ведаем. Тут пераходзяць канфрантацыі маладых са старэйшымі, якія ахвотна дзеляцца сваімі ведамі і вопытам. Старэйшым людзям удзел у нашым мерапрыемстве з'яўляецца сапраўдным святам. Іх заўсёды тут добра прымаюць. Апрача спеваў можна тут паслухаць паэзіо. Гэта таксама нашая малая адметнасць. Бацюшка Пётр сам займаецца падборам вершаў, якія кранаюць рэлігійную, святочную тэматыку на беларускай, рускай і ўкраінскай мовах.

Бяльшчане цэлы год чакаюць вечароў, якія дапамагаюць ім адарвацца ад штодзённых спраў і пераносяць у клімат духоўнай радасці з набліжаючагася Раждаства Хрыстова.



■ Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

# Беларускі акт

Аляксандр Ксяндзоў на фоне сваіх прац

Чарговая выстаўка з удзелам беларускіх творцаў сарганізавана была ў існуючай ад шасці гадоў беластоцкай мастацкай галерэі „Агарт". У гэты раз прысвечана яна была акту, адтуль яе назва „Інтымнае". Адрэкамедавалася тут двух жывапісцаў: Леанід Хобатаў і Аляксандр Ксяндзоў з Мінска ды Юрась Мацко з Гродна, які займаецца мастацкім кавальствам. Хаця спалучыла іх супольная тэматыка, адрозніваў падыход да тэмы класічнага жаночага акта.

На вернісажы ў „Агарце" не хапіла Леаніда Хобатава, які ў той самы час святкаваў у Мінску свой выбар на старшыню Саюза мастакоў Беларусі. Ягоныя працы, падобна як Аляксандра Ксяндзова, выкананы алеем на палатне з выкарыстаннем дынамічнага кантрасту, плоскіх каляровых плям і моцнага контуру (трыпціх „Адам і Ева"). Як расказвала нам куратарка выставы, заадно ўласніца „Агарта" Агнешка Багінская, яго „плакатныя, амаль абстрактныя кампазіцыі даюць гледачу зразумець, што форма цікавейшя чым любая дэталь, а працы, хаця ў прыглушаных колерах, маюць у сабе прастору, энергію і дынаміку". У сваю чаргу Аляксандр Ксяндзоў паказаў жаночыя акты поўныя настрою і далікатнасці, якія спасылаюцца на класічны галандскі жывапіс, з-за глазуры і пераціранняў. Жанчыны ў яго выкананні прадстаўлены вельмі адважна, ды ашчадна і з прастатой („Шубка", „Мядовая", цыкл „Перла"). Затое поўныя дынамізму, у поўны чалавечы рост прасторавыя скульптуры Юрася Мацко з'яўляюцца цікавым дадаткам да твораў абодвух жывапісцаў. Выкананыя са сталі, абстрактныя ва ўяве, маюць шмат круглявых і сагнутых ліній ды паліраваных плоскасцей, выяўляючых жаночую фізічнасць.

— Адзінай супольнай рысай гэтай тройцы з'яўляецца тэма, усё іншае — іншае, — расказвала „Ніве" Агнешка Багінская. — Леанід Хобатаў гэта мастак прызнаны ў Беларусі, гэта ён у прынцыпе стварае гісторыю мастацтва ў гэтай краіне. Быў пачынальнікам змен у беларускім жывапісе. Між іншым дзякуючы ягонаму ўдзелу адышоў у забыццё сацрэалізм і паявілася мастацтва больш сучаснае, крыху ў стылі Кандзінскага. Аляксандр Ксяндзоў першы раз выстаўляецца ў Беластоку, хаця прызнаны ён не толькі ў Беларусі. Карціны абодвух мастакоў знаходзяцца ў пецярбургскім Эрмітажы і ў Музеі сучаснага мастацтва ў Нью-Йорку. Юрась Мацко па прафесіі архітэктар. Апрача мастацкай скульптуры займаецца таксама рукадзеллем і мастацкім кавальствам. Вялікую дапамогу ў прэзентацыі ўсяе тройцы надзяліла нам галерэя „Крыга" з Гродна і яе ўласніца Марыя Мацко, жонка Юрася.

Выставу паглядзелі мы з Аляксандрам Ксяндзовым. Аб жанчыне і акце гаварыў ён:

— Жанчына гэта космас. Так, як увесь акаляючы нас свет, уся прастора — неймаверная, так і жаночы свет — неймаверны. Для мяне ўвесь час гэта *terra incognita*. Мабыць таму якраз гэтая тэматыка так мяне цікавіць. Адкрыванне чагосьці, чаго ты нават не ўяўляў што яно ёсць, чагосьці па-за мяжой бачнага. Жаночы акт у Беларусі ўспрымаецца нармальна, без ніякага пурытанскага падыходу. З такой тэматыкай я выстаўляюся ўжо ад 1988 года, калі яшчэ існаваў Савецкі Саюз. І ўжо тады неяк нармальна да такога тыпу мастацтва адносіліся, ды не скажу, каб карысталася яно нейкай асаблівай папулярнасцю. Дарэчы, як усюды ў свеце. Няшмат мастакоў такой тэматыкай займаецца ў Беларусі. Можа таму, што яно складанае ў плане пранікнення ў яго глыбіню і зразуменні мастацкіх нюансаў. Прытым акт з'яўляецца праверкай пачуцця густу мастака.

Мастак успамінаў аб сваіх спасылках на галандскіх класікаў:

— Рэмбрандт, Брэйгель і шмат іншых галандскіх жывапісаў унеслі вялікі ўклад у сусветны жывапіс. Існуе такая крыху зласлівая пагаворка, што ўсё галандскае мастацтва купалася ў карычневым соўсе. Гэты колер, аднак, вельмі цёплы і таямнічы. У маіх карцінах жанчына гэта такая зорачка, якой нічога не павінна перашкаджаць. Адтуль гэты колер і адсутнасць у маіх карцінах непатрэбных элементаў на фоне, як напрыклад, інтэр'ер. Сама жанчына з'яўляецца зоркай. Кожная жанчына ў прыродзе са сваёй пластыкай, мілатой, красой — адзіная і непаўторная.

Мы спыталіся ў Пятра, аднаго з наведвальнікаў галерэі, як прызнаўся — мастака, якія ў яго думкі наконт выставы:

— Мне вельмі падабаюцца гэтыя працы, яны вельмі густоўныя. Люблю такую простую, непакамбінаваную форму. Колер прац, на мой тэмперамент, нават лішне прыглушаны. І гэтыя акты не ёсць мяцежнымі, як на сённяшні час.

Звычайна і ў гэты раз працы рэкамендаваныя ў „Агарце" можна было купіць. Аднак цана была немалая і даходзіла нават да 20 тысяч злотых.

Найбліжэйшая прэзентацыя ў галерэі? Агнешка Багінская:



Скульптуры Юрася Мацко

— Увесь час капаюся ў Беларусі. Рыхтуемся да студзеньскай выставы Сяргея Грыневіча, які ў нас гасцяваў два гады таму і якім я захоплена. Гэта мастак досыць шумны, такі беларускі Эндзі Уорхал.

Галерэя „Агарт" (вул. Юравецкая, 34, непадалёк Радыё Рацыя) паказвае і рэкамендуе новае мастацтва Усходняй Еўропы, асабліва беларускае. У яе зборах знаходзіцца больш за трыста твораў мастакоў галоўным чынам з Беларусі, але і з Украіны ці Літвы.

## Крэсавая станіца ў Мельніку

Цяперашні войт Мельніка Адам Табота — чалавек, у якога заўсёды, нават яшчэ не думаўшага аб пасадзе войта, былі свае ўяўленні на тэму развіцця роднай мясцовасці, свае планы і мары. І першапачаткова рашыўся ён рэалізаваць іх у рамках дзейнасці Таварыства прыяцеляў Мельніцкай зямлі, каб толькі яго любімы Мельнік атрымаў чарговыя атракцыёны, каб прыцягваў турыстаў і курортнікаў. Адной з ягоных мар была будова гістарычнага парку, які набліжаў бы часы, апісаныя ў „Трылогіі" Генрыка Сянкевіча. Цяпер, калі Адам Табота стаў афіцыйным кіраўніком сваёй гміны, ягоныя ўяўленні пачалі ўвасабляцца ў канкрэтныя формы, сталі матэрыялізавацца.

Гістарычны парк „Трылогія" мае рэальныя шанцы стаць найбольшым атракцыёнам Мельніка, які пераносіць турыстаў у рэаліі XVII-вечнай Рэчы Паспалітай Абодвух Народаў. Займае ён плошчу амаль 30 гектараў, на якой знаходзяцца м.інш. такія аб'екты як рыцарскія і казацкія станіцы, шляхецкія дворыкі, канюшні, а нават „Дзікае поле".

Парк — шматгадовае мерапрыемства агульнапольскага маштабу. Будзе можна ў ім прыпомніць месцы і асобы, звязаныя з гістарычнымі раманамі Сянкевіча, а таксама прыглядзецца працы апранутых у старажытныя строі рамеснікаў, спрабаваць самому, напрыклад, ляпіць гліняны посуд, пісаць гусіным пяром, прыняць удзел у вырабе нітак ці тканін, у рыцарскай муштроўцы ці стральбе з лука. Працу пры гэтых усіх атрыкцыёнах могуць атрымаць некалькі дзесяткаў чалавек, што сёння таксама мае вялікае значэнне. На тэрыторыі парку будзе можна здымаць кінафільмы, што павінна даваць дадатковыя прыбыткі.

Рэалізацыя задуманага ідзе хуткімі тэмпамі. Уся разлеглая тэрыторыя перададзена ўжо парку. Вялікім дасягненнем было атрыманне на бязвыплатнай аснове гістрачыных касцюмаў, у якіх здымаліся акцёры ў фільмах Ежы Гофмана паводле „Трылогіі" Сянкевіча, а таксама ў фільмах „Старое паданне" і „Варшаўская бітва 1920". Вартасць гэтых дароў — вялікая. І — самае цікавае — частка гэтых рэквізітаў знайшла ўжо прымяненне: у „мельніцкіх" строях выступаюць артысты беластоцкай оперы ў „Страшным двары" Станіслава Манюшкі. І менавіта дзякуючы гэтай дапамозе ў наступным годзе будзе магчымасць паглядзець і паслухаць гэтую жамчужыну польскай оперы ў Мельніку, у амфітэатры над Бугам.

Маюцца яшчэ іншыя планы, але не рассакрэчваймa іх заўчасна. Адно можна сказаць, што набліжаецца той час, калі школьныя экскурсіі ці індывідуальныя турысты замест наведваць бессэнсоўныя і чужыя нам у ідэйным плане паркі юрскага перыяду ці даліны дыназаўраў, пачнуць ездзіць у Мельнік, каб знаёміцца з тым, што прыблізіць сваё мінулае і заахвоціць да чытання кніжак сваіх аўтараў. І гэта будзе яшчэ адна важная карысць ад новастворанага аб'екта.

**Марк ЦЫБАРТ**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.iig.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка
для дзяцей і моладзі


# Два лаўрэаты з аднае хаты!



Фота Ганны Кандрацюк

Лукаш Марчук (у цэнтры) з удзельнікамі конкурсу

Размова з **Лукашом Марчуком**, пераможцам XV Літаратурнага конурсу беларускай паэзіі і прозы „Дэбют”, вучнем трэцяга класа гімназіі ў Нараўцы.

**Зорка:** — *Лукаш, скажы нам, чаму ў Цябе такі свойскі псеўданім „Барыс”. Гэта, па бацьку?*

**Лукаш Марчук:** — Мяне так называюць у школе, то падумаў сабе: „Няхай будзе Барыс”.

**З:** — *Як адчуваеш сябе як пераможца?*

**ЛМ:** — Гэта такое шчасце, ну брак слоў, каб пра тое сказаць. Я проста шчаслівы. Гэта такое пачуццё, якое нельга назваць словамі.

**З:** — *Ты ўжо раней пісаў вершы на літаратурны конкурс?*

**ЛМ:** — Год таму я напісаў вершы, але завельмі спяшаўся. А цяпер прысвяціў ім больш часу, больш падумаў, крыху пастараўся.

**З:** — *Можа рассакрэціш нам як узніклі Твае вершы?*

**ЛМ:** — Ну, я дакладна не ведаю як іх напісаў. Напэўна ўзяў доўгапіс, пісаў і пісаў і так яны напісаліся...

**З:** — *А можа закахаўся?*

**ЛМ:** — (*Смяецца*). Змабілізаваў мяне конкурс, я хацеў штось напісаць па-беларуску, ад сябе.

**З:** — *Скажы, як у Цябе з любоўю да беларускіх кніжак?*

ЛМ: — Добра, добра. А цяпер то яшчэ больш пачытаю...

**З:** — *Год таму ў „Галерэі Зоркі” Ты марыў, каб стаць інфарматыкам. Ці гэта актуальныя планы?*

**ЛМ:** — Цяжка з гэтымі планамі, яны ў мяне паблыталіся. Цяпер у мяне няма канкрэтных планаў, не ведаю яшчэ куды далей пайду вучыцца, што буду рабіць у жыцці. Магчыма, што выберу зусім нешта іншае чым інфарматыка.

**З:** — *Бачу, Ты сапраўды занадта шчаслівы паэт, каб сёння пагаварыць пра канкрэты. Наша рэдакцыя і кампанія з „Сустрэч «Зоркі»” шчыра Цябе віншуе. Каб сённяшні поспех дадаў Табе крылаў і дапамог выбраць найлепшую дарогу ў жыцці. На канец, пытанне сямейнага кшталту. Уля Марчук, якая атрымала вылучэнне у сёлетнім конкурсе — твая сям'я?*

**ЛМ:** — Мая малодшая сястра.

**З:** — *Хто каму дапамагаў?*

**ЛМ:** — Кожны пісаў сам, і мы нават пра тое не гаварылі. Мяне вельмі здзівіла, што так сталася, што два лаўрэаты з аднае хаты...

**З:** — *Вось, менавіта. У Нараўчанскім доме культуры пра Цябе здаўна кажуць: „Лукаш, наш беларускі паэт”!*

**ЛМ:** — (*Апошні адказ Лукаш выкажа тэатральнай мімікай, якой нібыта паказвае здзіўленне і адначасова добравядомую ў мястэчку пагаворку. У гэтым, як і ў цэлай нашай размове, аж разносіць ад файнай весялосці, пачуцця гумару*).



## Конкурс пра зіму (52)

Прывітанне, сябры! У нас працяг тэматычнага конкурсу, звязанага з перыядам зімы. Разам з адказамі, калі ласка, пазначце нумар конкурсу.

**1. Якога знака на небе чакаюць беларусы, каб пачаць святкаванне Каляд?**

а) вясёлкі,
б) першай зоркі,
в) захаду сонца.

**2. Як на Падляшшы называюць кветку са збожжа, якую ставяць на покуці на Каляды?**

а) перапёлка,
б) госцік,
в) кветка-каляднік.

**3. Калядная зорка гэта сімвал:**

а) сонца,
б) багацця,
в) добрай надзеі.

Адказы на конкурс дасылайце да 15 студзеня 2013 г. (найлепш па электроннай пошце на адрас „Зоркі”).

**Адказ на конкурс № 34:** 1 — Запусты (а); 2 — да 25 лістапада (б); 3 — „Палац” (в).

Узнагароды — беларускія кніжкі для моладзі — выйгралі **Уля Марчук** і **Магда Пташынская** з Нараўкі. Віншуем!

**ЗОРКА**

## Лукаш МАРЧУК



Фота Міры ЛУКШЫ

### Адчыненыя вочы

*Люблю мець*
*Адчыненыя вочы*
*Бо бачу*
*Як трапеча*
*Крыламі свет.*

### Ёсць штосьці

*Ёсць штосьці, чаго не разумею*
*Ёсць штосьці, што толькі адчуваю*
*Ёсць штосьці, чаго баюся*
*Ёсць ласунак, якога я не з'ем*
*Ёсць сонца, якога я не бачу*
*Ёсць глухая ноч, каторай я не чую.*

### Быць можа

*Быць можа гэта сон*
*Быць можа гэта цень*
*Быць можа ў цяні сон*
*Быць можа ў сне цень*
*Быць можа гэта ХТОСЬ*
*Сядзіць ля мяне.*





# Нам сем гадоў і ўсе мы вясёлыя...

Не інакш было і ў беластоцкай „чацвёрцы”! Цягам гадзіны першакласнікі паказалі свае веды, якія атрымалі ў першыя тры месяцы на ўроках беларускай мовы. На свята „Развітанне з восенню”, якое адбылося 13 снежня г.г. у беларускім „Склепе з культурай”, яны запрасілі бацькоў і настаўнікаў. Шкада толькі, што частка дзяцей захварэла і не магла быць разам з сябрамі. Бо ўсіх першакласнікаў — чатырнаццаць.

— Хачу сказаць, — звярнулася да бацькоў настаўніца, — што праца з вашымі дзяцьмі гэта чыстая прыемнасць. Яны ўсе адкрытыя, здольныя і таленавітыя. Большасць з іх ходзіць на тэатральны гурток. А наш спектакль хочам паказаць на Дзень мамы, — дадала Аліна Ваўранюк.

Пачалося ад песень на вершы беларускіх аўтараў. Пасля пайшлі мудрыя загадкі, рытмічныя лічылкі, цікавыя практыкаванні. З дапамогай колераў і воплескаў яны дзялілі словы на склады і вызначалі ў назвах гародніны зычныя і галосныя гукі. Неверагодна, як многа радасці можа прынесці „Гульня ў сумнага ката”. Тут нават праз хвіліну не было сумна. Наадварот, усе смяяліся. У гульні што і раз мяняўся настрой, характар „ката”, якога з дапамогай мімікі, жэстаў або руху ігралі дзеці. Яшчэ больш спадабалася гульня з бацькамі „Вару-вару кампот”. Тут трэба было ведаць садавіну і паказаць спрыт, хуткасць.

— А цяпер заспяваем вашую любімую песню, — аб’явіла настаўніца. — А якая гэта песня?

— Гэта „Паяцык”! — грымнулі ў адказ першакласнікі.

Тут трэба пахваліць дзетак за чыстае, старannae вымаўленне. Тым больш, бо многія беластачане размаўляюць у хаце па-польску.

— Мы самі не мелі такой магчымасці навучыцца гаварыць, таму вельмі рады, што наш сын ходзіць на беларускую мову. Тут многаму можна навучыцца, праявіць сябе на сцэне, набраць адвагі, — кажа Анна Алексяюк. Школьныя песні і гульні, як усе дзеткі, Давід пасля школы прадстаўляе ў хаце. Гэта падабаецца яго малодшай сястрычцы, *вучаніцы* беларускага садка, якая ў час выступленняў падключалася да гульняў, падспеўвала...

— Яе таксама запішам на ўрокі беларускай мовы, — дадае пані Анна Алексяюк.

ЗОРКА,
фота ГАННЫ КАНДРАЦЮК

# Мароз

На дварэ — мароз.
Снег да стрэх прырос.
Змерзлі рукі,
Змерзлі ногі,
Стаў чырвоным нос.

Ой, мароз, мароз!
Шчыпле твар да слёз,
Цёпла толькі снежнай бабе
Ды не ляскае зубамі
Белы Дзед Мароз.

*Ларыса Геніюш*

# Музыка з кайфам

## «Południce/Elektronice»: альбом якраз пад ёлку




Пад ёлкай любім знаходзіць толькі прыемныя падарункі і яшчэ такія, якіх чакаем. Калі яшчэ не ведаеце што папрасіць у Дзеда Мароза, прапаную пацікавіцца новым альбомам «Палудніцаў» — калектыву спявачак з Беластока.

Пройдзе ўжо год, калі ў «Музыцы з кайфам» распавядала я пра альбом «Песні з Кожына», які запісалі жыхаркі гэтай вёскі ды спявачкі з «Палудніцаў». Яны, дзяўчыны закаханыя ў вакальныя традыцыі Падляшша і Палесся, не толькі прапагандуюць народныя спевы пакалення нашых бабуль, але і самыя дакідваюць каменьчык да агульнага збору народнай культуры. У мінулым годзе калядавалі яны ў рамках праекта «Новы расказ пра каляду». Выступалі тады з праграмай, аранжыраванай на акардэон, дуду, вакал і народны калектыў, а зараз уваходзяць у новы год з новым альбомам, прызначаным слухачу, якому да спадобы эксперыменты з сучасным гучаннем. На альбоме сустракаюцца бадзёрыя дзяўчаты з «Палудніцаў» ды непакорныя хлопцы — дыджэі, кампазітары сучаснай музыкі.

Пра праект чытаем, між іншым: «Глыбока глядзяць сабе ў вочы васковыя песні ды дабстэп, даб, электра і іншыя біты» ці «дзяўчаты, якія стараюцца спяваць быццам бабулі ды творцы маладой клубнай музыкі». Гэта пакаленне маладых артыстаў, якім не хапае ісці з галоўнай плынню, а пры тым хочацца ім падштурхнуць сваіх сяброў. Каб даведаліся, што ім у музыцы цікава, каб пазказаць вартасць творчых сустрэч, каб заахвоціць слухаць, а магчыма і спяваць.

Дагэтуль ужо двойчы можна было паглядзець прэзентацыю праекта. Прэм’ера адбылася ў Супраслі, у Народным доме, дзе пару дзесятак людзей слухала электра-народнае выкананне і сапраўды добра гуляла. Пазней прайшла таксама афіцыйная прэм’ера ў родным Беластоку. У даволі новым, але ў канцэртным сэнсе вельмі цікавым клубе «Gram Off On», слухачы запоўнілі ўсю прастору і сталі яшчэ на танцавальнай дарожцы... Ведаць, ёсць запатрабаванне на такую музыку.

Альбом пад загалоўкам «Południce/Elektronice» выйдзе на пачатку 2013 года, таму тыя, якія святкуюць пазней, маюць час прыдбаць такі альбомчык у якасці падарунка. Варта.

i_basovka@o2.pl

# Польска-беларуская крыжаванка № 52

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 47:

Гук, Крым, князь, кніга, на, бяроза, ток, парк, нотка, яда. Голуб, яно, крот, акно, нізка, Яга, каза, тая, норд, маланка.

Узнагароды, паштоўкі беларускіх мастакоў, выйгралі **Аня Бяляўская, Лукаш Марчук, Аляксандра Куптэль** з Нараўкі, **Мартына Леанюк, Сандра Пятроўская** з Орлі, **Матэвуш Бэрэшчук, Разалія Паўлючук** з Бельска-Падляшскага, **Наталля Аўласюк, Міхал Сахарчук** з НШ у Беластоку. Віншуем!

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Baran | Alicja | | Ar / Okienka | | Ono / Rzeka | | Kontakt | | No | Paryż / Kawa | |
| | | | | | Okucie / Skarb | | | | | | |
| Kino | | Przecinek / Nos | | | | | | Ty | Ar | | |
| | | | | Imiennik | | | | | Wy | | |
| Słońce / Tarcza | | | | | | Kant / Krzak | | | | | |
| | | | | | | | | Nakład gazety | As | Halo | Godność |
| | Szóstka | Oj! | | | | | | | Art / Tron | | |
| | Tajemnica | | Literki | | Strzała | | | | | | |
| | | | | | | | Tron | | | | |

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

# Падляшша ў аб'ектыве

Многа гайнавян займаецца фатаграфаваннем Белавежскай пушчы і яе наваколля, Семяноўскага вадасховішча, прыгожых рэчак, лугоў, птушак, жывёл і цікавых людзей. Такія здымкі ў асноўным знаходзяцца ў прыватных калекцыях Уладзіслава Завадскага, Славаміра Куліка, Юрыя Вуйціка і іншых фатографаў-аматараў. Музей і асяродак беларускай культуры ў Гайнаўцы збірае самыя цікавыя фатаграфіі, паказвае іх на выстаўках у музеі і публікуе ў альбомах, каб зрабіць іх даступнымі для шырэйшага кола грамадства.



Здымкі Тамаша Паскробкі (злева) і Агнешкі Чарноцкай атрымалі другую ўзнагароду

З гэтай мэтай Музеем ладзіцца агульнапольскі фатаграфічны конкурс «Падляшша ў аб'ектыве» на лепшыя здымкі не толькі з Гайнаўшчыны, але з усяго Падляшскага ваяводства. Да конкурсу, які сёлета ператварыўся ў міжнародную ініцыятыву, могуць прыступаць фатографы з Польшчы і замежжа. У час восьмага выпуску конкурсу быў выбраны яго патрон, якім ад наступнага года будзе памерлы нядаўна Віктар Волкаў, лепшы фатограф Падляшша. Аб ім 30 лістапада, перад адкрыццём конкурснай фотавыстаўкі, можна было пачуць многа цёплых слоў.

— Душа Віктара Волкава ёсць на прэзентаваных у музеі фатаграфіях. Многія з іх захоўваюць клімат, выпрацаваны Віктарам і нішто нас так не радуе, як прысваенне гайнаўскаму конкурсу імя Віктара Волкава. Мы цешымся, што вы хочаце па-свойму бачыць Падляшша, яго годнасць і займальнасць, без звяртання ўвагі на моду, якая паяўляецца ў фатаграфаванні, — звярнуўся да ўдзельнікаў конкурсу Ян Валенцік, член конкурснай камісіі.

— Віктар Волкаў найбольш вядомы фатограф Беласточчыны. Быў членам нашага журы і гаварыў, што наш конкурс — адзін з самых лепшых сярод тых, у якіх ён прымаў удзел і найлепшы сярод фотаконкурсаў на Падляшшы, — заявіў дырэктар белмузея Тамаш Ціханюк.

Да восьмага выпуску конкурсу прыступіла ажно 76 фатографаў, дасылаючы 220 прац. У час уручання ўзнагарод было мнагалюдна. Прыбыло многа ўдзельнікаў конкурсу, перш за ўсё маладыя фатографы з усяго ваяводства, гайнавяне і жыхары навакольных вёсак. Заўважыў я, між іншым, ваяводскага раднага Міколу Януўскага з Пераходаў і фатографа Славаміра Куліка, які найчасцей жыве ў Грабаўцы. Уладзіслаў Завадскі з Гайнаўкі прымаў удзел у конкурсе, а Юры Вуйцік прыбыў, каб паглядзець на цікавыя здымкі, сярод якіх былі ўзнагароджаныя фатаграфіі з Гайнаўшчыны.

Першую ўзнагароду атрымаў Юзаф Нядзелька з Беластока за фатаграфію беластоцкай вуліцы Ліпавай. Другую ўзнагароду камісія прызначыла Тамашу Паскробку з Беластока за здымкі з-над ракі Бобры і Агнешцы Чарноцкай з Варшавы за фатаграфіі крыжа і хаты, распаложаных паміж Кляшчэлямі і Дубічамі-Царкоўнымі. Трэцюю ўзнагароду атрымалі Пётр Свідэрскі з Бельска-Падляшскага за фатаграфію касцёла ў Гадышэве і Дар'юш Чыжэўскі з Беластока за здымак вясковых бабуль на лавачцы. Вылучэнні атрымалі Павел Тадэйка і Казімеж Янкоўскі з Беластока, Пётр Вансовіч з Гайнаўкі і Збігнеў Падсядла з Сасноўца. За асаблівыя кліматы ў прыродзе спецыяльныя вылучэнні атрымалі Кшыштаф Анікіюк і Адам Панфілюк з Гайнаўкі.

— Мы з зайздрасцю глядзім на лепшыя фатаграфіі на конкурснай выстаўцы, аўтары якіх сумелі так прыгожа ўбачыць акружаючы нас свет, робячы здымкі сэрцам і розумам, паказваючы клімат і незвычайную атмасферу нашага рэгіёна. Добра, калі фатаграфуем тыя краявіды і кліматы, якія знікаюць і ўжо не вернуцца. Хто ж раней думаў, што стагоў, ці вясковых заняткаў, якія зафіксаваў Віктар Волкаў, ужо не ўбачым і многія сённяшнія краявіды таксама праміну́ць. Але могуць яны застацца на здымках, — сказалі Ян і Бажэна Валенцікі, члены конкурснай камісіі, якія ацэньвалі фатаграфіі разам з Яраславам Хырам. — Цешаць нас фатаграфіі з прыродазнаўчым ухілам, але таксама здымкі, якія раскрываюць багацце нашага рэгіёна. Аднак мы пад вялікім уражаннем фатаграфіі, якая ў цікавы спосаб паказвае нашую метраполію Беласток, якая адразу вылучалася сярод іншых здымкаў. Мы пераканаым, што фатаграфія, на якой на шыбах аўтобусаў, што стаяць адзін за адным, відаць фрагмент Беластока, будынкі і вуліцу, як бы частку Нью-Йорка, гэта таксама непаўторная частка Падляшша. Гэта не мантаваны на камп'ютары здымак, толькі вельмі добра зробленая фатаграфія, на падставе якой можна меркаваць пра ўражлівасць, незвычайнае вока і вялікія ўмеласці яе аўтара. На іншых узнагароджаных здымках цікава, але больш традыцыйна, паказаны краявіды і клімат Падляшша.

На ўручанне ўзнагарод не прыбыў аўтар узнагароджанага першым месцам здымка Юзаф Нядзелька і таму нельга было адназначна вырашыць, як ён быў зроблены.

— Калі б нават гэтая фатаграфія была апрацавана камп'ютарным спосабам, у рэгламенце конкурсу няма забароны выконваць такія здымкі, — заявіў дырэктар белмузея Тамаш Ціханюк і адзначыў, што сёлета ў конкурсе ўдзельнічала большая колькасць аўтараў з Падляшша і тэмы здымкаў былі больш разнароднымі.

— Гайнаўскі фатаграфічны конкурс я лічу патрэбным, бо ён інтэгруе асяроддзе фатографаў. Мы можам увекавечыць падляшскія краявіды і нашую культуру на здымках, якія застануцца ў гайнаўскім музеі як дакументы, як кавалак нашай гісторыі, — заявіў Тамаш Паскробка з Беластока, які атрымаў узнагароду за тры фатаграфіі краявідаў з-над ракі Бобры, выкананыя з цікавым асвятленнем і ў нестандартных абставінах. Многа фатаграфуе ён людзей і краявіды з тэрыторыі распаложанай паміж мясцовасцямі Бельск-Падляшскі — Гайнаўка — Нарва.

Пётр Свідэрскі з Бельска-Падляшскага, які сёлета ў конкурсе «Падляшша ў аб'ектыве» заняў трэцяе месца, у мінулым быў лаўрэатам першай узнагароды і вылучэння. Фатаграфуе ён на Бельшчыне і Гайнаўшчыне, шукае асаблівасцей у нашых краявідах. Узнагароджаны быў здымак касцёла ў Гадышэве, які ўдалося яму сфатаграфаваць у час незвычайнага пахмурнага надвор'я, што ўзмоцніла экспрэсію фатаграфіі.



Фотавыстаўку адкрылі (злева) дырэктар Тамаш Ціханюк, Агнешка Ціханюк, Бажэна і Ян Валенцікі

— Я многа фатаграфую зуброў. Ведаю месцы ў Белавежскай пушчы, па якіх яны ходзяць і там раблю здымкі, — сказаў Кшыштаф Анікіюк з Гайнаўкі.

Цікавыя здымкі даслаў на конкурс Уладзіслаў Завадскі з Гайнаўкі, паказваючы хатку з Локніцы, пастаўленую ў палове XIX стагоддзя, якая не дачакалася рамонту і прынішчэла.

— Я паказваю беларускую вёску такой, якая яна ёсць. Рашыўся я прадставіць старую хатку, характэрную для нашага будаўніцтва, якую зараз рэдка можна ўжо ўбачыць. Фатаграфую таксама нашых беларусаў і нашыя асаблівасці. На гэтым конкурсе павінны перш за ўсё ўзнагароджвацца здымкі, на якіх відаць краявіды, матывы і дэталі характэрныя для Падляшша, якіх няма ў іншых рэгіёнах Польшчы. Фатаграфію з аўтобусамі з Беластока, найвышэй узнагароджаную, можна было б зрабіць у кожным іншым рэгіёне Польшчы і ў сэнсе рэгіянальным няма на ёй нічога асаблівага, — лічыць Валодзя Завадскі, як ён сам сябе называе.

На конкурснай выстаўцы ў музеі можна ўбачыць пушчанскія і прыпушчанскія краявіды і пейзажы з іншых рэгіёнаў Падляшша, з лугамі, пралескамі і рэчкамі. Сабраныя цікавіліся таксама фатаграфіямі з кветкамі, птушкамі, грыбамі, звярынай і рознымі культурнымі дэталямі з Падляшша. Цікава паказаны на экспазіцыі старыя крыжы, хаты, ветракі і сакральныя будоўлі, перш за ўсё праваслаўныя.

— У цэлым, у час арганізавання нашага конкурсу мы сабралі каля 800 фатаграфій, якія з'яўляюцца вялікай каштоўнасцю нашага музея і незвычайным дакументам з жыцця нашага рэгіёна і Падляшша. Мы рады, што Вікторыя і Андрэй Някрасавы з Брэста прынялі сёлета ўдзел у конкурсе, які дзякуючы гэтаму стаў міжнародным мерапрыемствам, — сказаў дырэктар белмузея Тамаш Ціханюк. — Людзі звонку вельмі ахвотна фатаграфуюць нашае праваслаўе, якое цікавае прыезджым. Нашыя фатографы дасылаюць многа здымкаў з нашай прыродай, але фатаграфуюць яны таксама людзей і розныя аб'екты.

Сёлета не абылося без здымкаў са святых месц — з Грабаркі і Крынычак, з хустачкамі развешанымі на калючых дратах. Займальнасць фатаграфій з дзеткамі і людзьмі рознага ўзросту залежыць перш за ўсё ад абставін, у якіх яны былі сфатаграфаваны.

— Мне найбольш цікавыя здымкі з людзьмі, у розных абставінах, бо і я люблю рабіць такія здымкі. Цікавыя мне таксама краявіды. Каб здымкі атрымаліся ўдалымі і цікавымі, трэба знайсці незвычайныя сітуацыі і адпаведныя кампазіцыі, з выкарыстаннем цікавага святла, — сказаў фатограф-аматар з Гайнаўшчыны.






Станіслаў ДАМБРОЎСКІ

Першае месца ў катэгорыі паэзіі

## варварыян — інакш трыпціх абаперты ў(вы)падкам аб плот

І. Святая Марыйка пажоўклая
пражываючая на старым ландшафце
якая вісіш на скрыжаванні дзвюх сцен і цяжкай ад хмараў столі
асвабаджу цябе з-за шкла і адкрыю лязом павекі
заміргай сонцу на цёмнай клавіятуры прыдарожнага лесу
можа яснасць узнікне і паверу ў світанак
уціснуты за кратамі гэтай задрыпанскай геаграфічнай шыраты
дзе цяпло ў гэтую шэрую пару года не мае чаго сказаць

ІІ. Марыйка вострых брам акцызы
што гайдаешся ў шкаплерыку на шыі пані з гарэлачнага аддзела
адпусці ім віны калі купляюць танныя напоі
мабыць у нічым яны не прыгадваюць смакам Кану
дай адчуць ілюзію агнёў (неабавязкова пякельных)
як тым штучным ружам на запэцканым прылаўку
(мабыць падсцібраным з блізкага могільніка)
набрынялым праменна як шчокі прадаўшчыцы
якія ў час акту веры ў паўзучым па зямлі каханні
мясцовы жулік падараваў са словамі:
— Збавіцелька наша што ніколі не хварэеш і заўжды ў цябе адкрыта —
Дзева радуйся Ты і Твае глыбеючыя рыскай нашых він і даўгоў
таўсцеючыя сшыткі

ІІІ. Святы Антоні ад знойдзеных рэчаў
Ты пэўна ўсміхнуўся ў іскрах снегу
калі той самы смярдзючы мачой лахман вяртаючыся ў сваю бярлогу — знайшоў
закутаны ўжо ў саван студзеньскага снегу пішчаўшы пакецік
непатрэбны і з непажаданага памёту...
(чаго ж не выкідваюць у прыдарожныя равы пры транзітных дарогах)
... і схаваў у кішэню
абое трымаюцца някепска — значыць неяк там вяжуць канцы
пакецік завуць Прамень і можа гэта дзіўна ды любіць ён быць паміж людзьмі

•

memento mori pro nobis — Ісусе павешаны
на люстэрках нашых захуткіх жыццёва аўтамашын —
малы праменьчык з Тваёй кароны віляе хвастом да Цябе

## Савуар-віўр пры падвячорку

Даль аддаляе сцежкі
выпясчаныя ў сепіі як масянжовыя самавары
Воблачна заслона экру голая па хрыбет Беразянкі
у фішбінны грэбень увязлыя Расчоскі
траў выпалавелых ўзелянелай мантылькай
у каўтун вясенняй метрэсы

Перад ставу венецыянскім люстрам
шарманцка і серафіцка шастаюць анёлкі-путты
трыснягом у камеі вады глазурнай — камея
праметэйская Афіцэркамі зарэзблівае яе партрэт вецер
яна ў кальe
рос перлай плаўна ўдаванай — адплывае

Ідзе лета
На філіграннай вазе філіжанка
з блакітнай саксонскай парцаляны.
У бутан'ерцы жменькі чайных руж
Уфф... Парна
Паклонам нізіцца вострыцца сельска — Ластаўка
аблісквае рапір у дамаскай сталі
майстрыха фехтунку

І раптам...
— Што гэта? Ах які ж дысананс!
За гарызонт успатыкнулася нетактоўная бура
Абліла мой раман са слоў з рагізуляй

— Дайце мне з азону сродак на ацверазенне



Вера МАСАЙЛА

Вылучэнне ў катэгорыі паэзіі

## Дарога

Іду дарогай перад сябе
цераз душы цярпенне
там дзе родзяцца словы
там дзе сустракаюцца цені

Ідучы сумую па табе
сасновая хацінка
чароўная гайданка
на старой грушы
шчаслівае дзяцінства...
сумую па вас
гарачыя размовы на ганку
ў шораху вечароў
дзе спатыкаліся
важныя хвіліны

Дарога няшчырая,
усё менш прыхільная
не завядзе
да цацак дзяцінства...
На стаптаным парозе
не хапіла Гаспадара
занавеска не падорыць Яго
вясёлай усмешкі,
а падлога рытмічнага танца
Яго кія
і слоў „Як добра
што ты прыехала".
На панадворку жудкая цішыня
толькі вецер шастае
адарванай аканіцай.
... як жыць без дарагіх
вачэй і цёплых рук Бацькі?
Цяжка жыць з думкай
што цудаў няма
хіба лепш што аднак
усё ёсць цудам.

## Просьба

Маладосць гэта не толькі
як кажуць перыяд у жыцці
гэта выраз волі, стан духу
якасць уяўлення
гэта перамога: адвагі
над нясмеласцю,
веры і надзеі над
бяссэнсам рэчаіснасці.

Душы не моршчаць і не гнуць
пражытыя гады,
яе засушвае адкінуты ідэал.

Маладым застаецца той
хто не перастае захапляцца:
цудам узыходзячага сонца
гоманам цякучай ракі
нараджэннем праўнукаў.

Малады гэта той хто
надалей здзіўляецца:
паху вясны
серабру снегу
агню кляновых лісткоў,
гэта той хто беражэ
сэрца перад ядам песімізму
і цынізму,
той хто ўражлівы як дзіця
на чалавека, прыроду
і прамінанне...
... ды аднačасова знаходзіць радасць
у гульні жыцця

Б о ж а,
(каб не стаць пылам
яшчэ перад смерцю)
пашлі мне хоць крышку
такой маладосці!!!

# Даўнія вячоркі ў Меляшках



Другі раз у Гарадоцкай гміне пазнаёміліся з красою даўніх вячорак. Гэта цыкл арганізаваны ў вясковых святліцах Гарадоцкім цэнтрам культуры. У халодную лістападаўскую суботу (24.11.2012 г.) усе гмінныя артысты дабіраліся ў старажытную вёску Меляшкі, каб разам з жыхарамі адсвяткаваць запусты перад Піліпаўкай. У аднаўленай святліцы вялікай беларускай вёскі, якая раней бурліла таксама культурным жыццём, загараўся камінок і на сталах запахацелі смачныя вырабы, якія ўпеклі-ўварылі самыя жанчыны з дапамогай пару мужчын.

Імпрэзу пачаў гармонік Сцяпана Копы, вядомага збіральніка родных песень, якія запісаў таксама і ў Меляшках. Заспявалі таксама „Расспяваны Гарадок”, „Асенні Ліст” і маладая „Вэна”.

Юрка Хмялеўскі, дырэктар Гміннага цэнтра культуры:

— Мы рэалізуем праект „Даўніх вячорак чар”. Такія імпрэзы, вечарыны, патрэбныя, каб захаваць спадчыну, каб маладое пакаленне, якое патрабуе нейкіх узораў, магло пераняць традыцыю ад старэйшых. Неабавязкова тое, што паказваецца на тэлеэкране, а найлепш — мясцовае. Вячоркі. Людзі калісь спатыкаліся па хатах, каля печак. Расказвалі, спявалі. Гэта было вельмі важнае. Гэта наша традыцыя, культура. Гэта многія з вас з Меляшкоў ведаюць, памятаюць. Гэтая задума прыйшла нам у галаву пры нагодзе рыхтавання Сцяпанам Копам зборніка песень Гарадоцкай зямлі.

Барбара Нічыпарук, старшыня Таварыства сяброў Гарадоцкай зямлі:

— Гэты праект прыдуманы дзеля паказання даўніх абрадаў, народных песень і сцэнак у вёсках, і мы гэта робім у вясковых святліцах — у Залуках, у Меляшках, у Случанцы. І на заканчэнне карнавалу такую сустрэчу будзем мець у Гарадку. Гаворка пра актывізацыю жыхароў вёскі. Сабраліся мы раней, каб прыпомніць даўнія кулінарныя рэцэпты. Ніхто не прывёз сюды гэтага смакоцця! Яны ўсе прыпомнілі старыя рэцэпты. Жанчыны дагрэбліся да старых рэцэптаў. Пончыкі спадарыні Лілі — проста аб'ядзенне. Хачу падзякаваць усім гаспадыням, таксама солтысцы Ані Назарка. На першы сход прыйшло семнаццаць асоб, таксама мужчыны. Я была проста ашарашана. Ведала, што тут удасца! Найбольш актыўныя жанчыны гэта Галіна Лушчынская, Ліля Лотыш, Ірэна Чэмель, Ніна Лавіцкая, Валянціна Ярмолік, Тамара Дзярманская, Ніна Манцэвіч, Анна Дарашкевіч, Валянціна Кісляк ды спадар Сяргей Госцік. Найбольшая падзяка пані солтыс, што сарганізавала ўсіх, намовіла да працы. Удаліся цудоўныя стравы. Я парабіла здымкі харчам, думаю, што ўдасца іх змясціць у нашых „Гарадоцкіх навінах” разам з рэцэптамі. Я захапілася гэтай вёскай. Бабанькі маюць такі патэнцыял! Варта намовіць спадара войта і дырэктара ГЦК, каб падтрымалі аднаўленне ў гэтай славутай вёсцы Кружка вясковых гаспадынь. Яны ж вялі калісь тут і тэатральную дзейнасць.

Рыхтавала стравы між іншым Ліля Лотыш:

— Бульбяныя пончыкі? Кілё мукі, чатыры яйкі, цэлы маргарын, 150 грам дражджэй, 700 грам варанай бульбы. Гэтую бульбу перакручваем праз машынку, дадаем дрожджы, маргарын, перакручваем, пасля месім. Гэтыя пончыкі растуць проста ў руках. Робім галушачкі, апускаем іх у тлушч... Прабуйце. Пальчыкі лізаць, праўда? І шмальчык таксама я рабіла. Паўтара кілё саланіны, адна цыбуля, часнаку паўгалоўкі, гэтыя скваркі ў костачку парэзаць, падтушыць, дадаць майран, зёлкавы перац і солі да смаку. А вось — бабка: трэм бульбу, дадаем скваркі, саланінку, бачок, усё ў костачку, я яшчэ дадаю крышку каўбасы і алівы, бо тады бабка мякчэйшая. Трохі мукі, і ў бляхі — спячэцца.

— Я рагалікі, катлеты рабіла, клёпс... — пераклікаюцца гаспадыні.

Жанчыны з „Расспяванага Гарадка” і „Асенняга ліста” прадставілі сцэнкі — „Капанне бульбы” і візіт у бабкі-шаптухі (у Меляшках жыла слаўная знахарка Вера Лявіцкая, якая выступіла ў сваёй ролі ў фільме „Крэсавая балада” Тамары Саланевіч).

— Як калісь тая бабка лечыла людзей, жывіне памагала, замаўляла вецер, ружу, малілася... Прымяняла такія ўсялякія спосабы, каб памагчы людзям, прычараваць. Як малако ў кароўкі папсавалася, ці дзе што вылезла на руках, на твары, або дзіцяня пералякалася, або як дзеўчына хацела, каб яе хлопец палюбіў... — расказвалі жанчыны з „Асенняга ліста”.

— А наша сцэнка пра дакопіны картоплі, — удакладніла Марыя Врублеўская. — Паказалі мы, якое калісь адзенне было, якія стравы елі, як паводзілі сябе людзі, якія песні спявалі. Інакш было чым сёння, сёння — механізацыя. Я іграла ратая. Адзін ратай быў на вёску, які з канём, з плугам хадзіў, выворваў баразны картоплі. Ну і кожны чарачку яму падліў, таму я і грала такога п'яніцу.

„Ты што за такім прытупам да нас гоніш? Набраўся як жаба мулу! І разрабляеш як той зайка!” — папракаюць цёткі на сцэне ратая, якога зухавата зайграла пані Марыя, выклікаючы павальны рогат у гледачоў.

— Ой, даўно так не смяяліся! — качаліся ад смеху на лавах асабліва глядачкі.

— Я ўключыўся ў падрыхтоўку страў, — кажа Сяргей Госцік. — Я варыў кампот. З яблык, пасля адцэджваў, і мёду туды дзве лыжачкі дадаў. Вось такі кампот у мяне выйшаў. Гэта рэцэпт маёй маткі быў. Толькі нас двух далучылася да жанчын.

— Памагалі і мы крыху нашым жанчынам, — прызнаецца Мікалай Кастэнцік. — Трэба і дроў прывезці, распаліць печку, каб было тут цёпла. У нас тут многа бабаў, не маюць што рабіць, то як узяліся рыхтаваць стравы, шыкаваць імпрэзу — то весялей было!

**Тэкст і фота Агаты АРЛЯНСКАЙ**



Сённяшнія палітычныя рэаліі, у якіх апынулася Беларусь, проста складанымі не назавеш. Беларускае кіраўніцтва загнала сябе ў кут, дзякуючы сваёй бязглуздай як унутранай, так і знешняй палітыцы. Чаго вартае толькі ўвядзенне элементаў прыгонніцтва на дрэваапрацоўчых заводах! Аказваецца, і ў касмічную эру, калі, здаецца, ужо даказана, што толькі вольная праца можа даць найлепшы эканамічны эфект, знаходзяцца цемрашалы, якія імкнуцца даказаць нешта адваротнае.

Наяўнасць нацыянальных дыяспар з пункту гледжання эканомікі нібыта нясе карысць для метраполіі — гэта і рычаг уплыву на ўлады той ці іншай краіны, і дадатковыя кропкі дачыненняў для наладжвання знешнеэканамічнага супрацоўніцтва. Але для лукашэнкаўскай улады гэта не так. Для яе нічога не значаць суайчыннікі за мяжой, і калі той-сёй з іх мае адрозны погляд на палітыку, то лепей праславіцца на цэлы свет грукатаннем памежных дзвярэй перад носам гэтага суайчынніка.

Зразумела, што такое стаўленне ўсё больш спрыяе разуменню таго, што цяперашняя беларуская ўлада і беларускі народ, як у Беларусі, так і за яе межамі, гэта не адное і тое ж. І, зразумела, што гэта дае дадатковую нагоду пераходзіць на бок непрымірымай да гэтых улад апазіцыі, зноў жа як унутры краіны, так і за яе межамі. Яркім прыкладам дзейнняў супраць лукашэнкаўскай улады з'яўляюцца разнастайныя акцыі, што ладзяць дыяспарныя арганізацыі. Пра адну з такіх арганізацый — Беларуска-амерыканскае задзіночанне „Пагоня”, а дакладней пра яе сайт варта распавесці падрабязна.

Калі цікаўны карыстальнік набярэ адрас у інтэрнэце **http://pahonia.com**, то ўбачыць перад сабой выдатна аформленую вэб-старонку, якая нібыта натхняе на нейкае актыўнае дзеянне. У многім такому ўражанню спрыяюць фотаздымкі, размешчаныя ўверсе выяўлення — кадры з падзей снежня 2010 года і нью-ёркскі гарадскі краявід з вышыні птушынага палёту. Ніжэй на галоўнай старонцы ідуць навіны і абвесткі. Апошняя з іх — пра мітынг у падтрымку беларускай апазіцыі, які адбыўся 19 снежня, і з'яўляецца праявай напрамку палітычнага дзеяння амерыканскіх беларусаў.

Варта адзначыць, што слова „Пагоня” ў назве арганізацыі з'явілася толькі летась. Да таго часу ажно з 1949 года яна часта звалася проста і скарочана БАЗА. Пра гэта мы можам даведацца, калі зойдзем на старонку „Хто мы”, выйсце на якую маецца пад фотаздымкам уверсе выяўлення.

„Пагоня” — гэта „арганізацыя беларусаў, выхадцаў з Беларусі, а таксама людзей, якія эмацыйна, генеалагічна або ў іншы спосаб звязаныя з Беларуссю” — распавядаецца на той старонцы. Тут жа падаюцца мэты арганізацыі — захаванне і падтрымка беларускай культуры ў ЗША; узаемадапамога сяброў арганізацыі; інфармаванне амерыканскай грамадскасці і амерыканскіх афіцыйных улад пра беларусаў у ЗША, пра беларускія культурныя каштоўнасці, пра гісторыю і сучаснае становішча ў Беларусі; падтрымка беларускай нацыянальнай культуры, дэмакратыі і правоў чалавека ў Беларусі.

Што ж тычыцца прынцыпаў арганізацыі, то яны проціглеглыя ад мэт лукашэнкаўскіх улад, бо гэта, у прыватнасці, прызнанне беларускай мовы як адной з галоўных духовых вартасцей беларускага народа і спрыянне ёй; прызнанне беларускіх нацыянальных сімвалаў — бел-чырвона-белага сцяга і герба „Пагоня”, ужыванне і пашырэнне іх; прызнанне прынцыпаў свабоды і дэмакратыі і падтрымка іх.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

# БЕЛАРУСІ Скарбы

### Ансамбль „Песняры”

Калі ў 2007 годзе выйшаў у свет мой „Беларускі каляндар-даведнік на кожны дзень”, я прасіў усіх дасылаць свае папраўкі, заўвагі і дапаўненні. Што датычыла персаналій, то найбольш чалавек звярнула мне ўвагу на тое, што ў даведніку прапушчана асоба Уладзіміра Мулявіна, заснавальніка і кіраўніка легендарнага ансамбля „Песняры”. Мушу прызнацца, што брак гэтага прозвішча ў календары быў невыпадковым. Апошнія гады свайго жыцця знакаміты музыка актыўна выкарыстоўваўся дзяржаўнай прапагандай у сваіх інтарэсах, што непазбежна кідала на яго цень. Адбор людзей — справа заўсёды суб'ектыўная і зараз мушу прызнаць празмерным свой максімалізм, аддаўшы гэтым нарысам належную даніну таленавітаму песняру і яго калектыву.

Сёняшняя беларуская музычная культура надзвычай багатая на здольных творцаў. Сучасныя барды і рок-каманды, якіх, на жаль, не пускаюць да шырокай публікі, пералапацілі амаль усю беларускую паэтычную класіку, стварылі процьму адметных песень і кампазіцый. Але ўсё пачыналася з легендарных „Песняроў”. Менавіта яны ўзнялі айчынных паэтаў — Багдановіча, Коласа, Купалу — на небывалую раней высь. Магчыма не ўсе ведаюць, што пачаткова ансамбль называўся „Лявоны”. „Песнярамі” ён стаў звацца з 1970 года. У сямідзесятыя гады ў грамадзян пачалі з'яўляцца першыя магнітафоны, так званыя „бабінікі”. З'явіўся такі грувасткі апарат і ў нашай сям'і, пераключаць тумблеры таго магнітафона „Саната” было надзвычай цяжка. Мой старэйшы брат запісваў з тэлевізара песні і мы іх слухалі. З таго часу найбольш адклаліся ў памяці менавіта „Песняры”: „Веранiка”, „Шэпчуцца явар з калінаю”, „Александрына” трывала ўваходзілі ў маю дзіцячую свядомасць яшчэ да вывучэння класікаў беларускай літаратуры ў школьнай праграме. Асабліва мы захапляліся тады голасам Леаніда Барткевіча. Многа пазней, пасля вяртання з ЗША, ён выступаў у гродзенскім палацы „Юнацтва” ў канцэрце разам з Данчыкам і Сержуком Сокалавым-Воюшам — гэта быў знакавы канцэрт у горадзе над Нёманам.

У 1976 годзе „Песняры” зрабілі турнэ ў Амерыку, неверагодная з'ява па тых часах. Пра гэта тады пісалі савецкія газеты, яны называлі вакал беларускага ансамбля адным з найлепшых у свеце і гэта было ледзь не адзінай праўдай у гэтых друкаваных выданнях. Добра адклаліся ў памяці выразкі з „Камсамольскай праўды” з невыразнымі фотаздымкамі — такая тады была нікчэмная паліграфія. Але „Песняры” разам з Белавежскай пушчай былі адметнай візітоўкай нашай Беларусі, з'явай сапраўднага гонару.

Уладзімір Мулявін быў сапраўдным лідарам ансамбля, але не варта забывацца і на іншых — Анатоль Кашапараў, Леанід Барткевіч, Уладзіслаў Місевіч, Валерый Дайнека, Аляксандр Дзямешка — усё гэта былі „зоркі” першай велічыні. Пазней „Песняры” развалiлiся, утварылася некалькі калектываў з аналагічнай ці вельмі падобнай назвай, але аніводны так і не здолеў стварыць нешта на ранейшым роўні.

Уладзімір Мулявін пакінуў гэты свет заўчасна, трапіўшы ў аўтамабільную катастрофу, праз некалькі месяцаў ён памёр. Чалавек, які прыехаў у Беларусь з іншай культурнай прасторы, здолеў арганічна ўспрыняць нашы духовыя здабыткі і развіць іх да шэдэўраў музычна-песеннай культуры. На сталічных Усходніх могілках ён пахаваны побач з Васілём Быкавым. А „Песняры” сталі гісторыяй і легендай айчыннай музыкі, пакінуўшы пасля сябе мноства твораў, сцвердзіўшы беларушчыну на вышэйшым культурным роўні.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

**Лістапад у Польшчы — час святаў. Людзі з нецярплівасцю чакаюць даўжэйшых выхадных з нагоды 1 ды 11 лістапада. Ды ў магазінах, гандлёвых галерэях ці на тэлебачанні нецярпліва перабіраюць нагамі і рукамі, каб ужо паказаць Святога Мікалая, запрапанаваць найлепшыя падаркі пад ёлку, цудоўныя ёлачныя цацкі ці зайграць неўміручае „Last Christmas". На шчасце чакаючы Каляд, можна паказаць „заходнія" хэлаўінаўскія дыні, якія вясёла свецяцца замест сумных знічак.**

Тэкст і фота Эвы ВАШЧЫНСКАЙ

# Патрыятызм па-белавежску



Белавежскія гімназісты

Здаецца з крыху меншым энтузіязмам перад Святам Незалежнасці павіснуць польскія нацыянальныя сцягі. Аднак 11 лістапада гэта вельмі важнае свята ў Польшчы. У гэтым годзе яно даволі святочна адзначалася ў Белавежы. Пры галоўнай вуліцы на слупах віселі сцягі і, зразумела, на будынках устаноў, такіх як школа ці гмінная ўправа ды на некаторых прыватных дамах. Мне падабаецца, калі людзі не саромеюцца сваіх патрыятычных сімвалаў. А калі яны ганарацца імі, як амерыканцы ці шведы, гэта добра.

Патрыятычнае святкаванне ў Белавежы пачалося ў чацвер, 8 лістапада, у кіназале ўрачыстай лінейкай, сарганізаванай Белавежскім асяродкам культуры. Сцэна аднак выглядала звычайна, не хапала дэкарацыі, хаця б сцяга ды герба. Выступленні пачала група гурту „Ручаёк" з пачатковай школы. Дзяўчынкі няхмела дэкламавалі вершы пра Польшчу ды праспявалі некалькі песень, у тым ліку гімн Польшчы, „Rota" і „Wojenko, wojenko".

Далей паказала сябе моладзь з Ляснога тэхнікума. Яны, пад кіраўніцтвам Іаанны Раманюк, падрыхтавалі нібыта праграму для тэлебачання. У ёй выступалі навукоўцы і студэнты з Беластока, якія прозвішчы напаміналі вядомых герояў польскай літаратуры. Паявілася між іншых Longina Podbipięta, прэзідэнт Сопліца, Аляксандра Кміціц ці студэнт-медык Барыка. Прагучалі розныя песні пра любоў да роднага краю, напрыклад „Requiem rozbiorowe" Яцка Качмарскага, які не мог пры такой нагодзе проста не паявіцца, творы Марка Грэхуты ці Яна Петшака. Прагучалі многія вершы Норвіда, Шымборскай і іншых. Людзі паслухалі таксама паланез Агінскага „Развітанне з радзімай". Але ніхто нават не ўспомніў, што постаць кампазітара не такая ж толькі чыста польская. Далей хор вучняў Ляснога тэхнікума ды хор белавежскіх леснікоў паўтарылі песню „Wojenko, wojenko" ды жыва праспявалі „Пяхоту", „Першую кадравую" ці „Пра палкоўніка Кулю-Ліса".

У час выступленняў публіка магла яшчэ пабачыць прэзентацыю пра помнік маршала Язэпа Пілсудскага, які стаіць у Белавежы. Расказала пра яго Анна Кульбацкая, дырэктарка Лясного тэхнікума, які апякуецца гэтай памяткай.

Канферанс мерапрыемства вёў крыху нясмклядна малады дырэктар Белавежскага асяродка культуры Матэуш Гутоўскі. На заканчэнне войт Белавежскай гміны падзякаваў за выступленні ды запрасіў на афіцыйныя святкаванні нацыянальнага свята ў нядзелю, 11 лістапада, пры помніку маршалу Пілсудскаму. На жаль, некаторыя людзі пакідалі залу ў час выступленняў, што мне асабіста моцна перашкаджала.

Больш урачыста выглядала белавежская школа ў пятніцу, 9 лістапада, у час школьнай лінейкі з нагоды нацыянальнага свята. Быў сцяг, герб, бела-чырвоныя кветкі і цытата. А моладзь з трэцяга класа гімназіі, якая выступала, мела папулярныя кацыльёны. Вучні, падрыхтаваныя выхавацелькай Дамінікай Сеньчук, даволі старанна прадэкламавалі вершы, праспявалі некалькі песень. Для мяне галоўным пунктам праграмы была песня „Wojenko, wojenko", да якой на сінтэзатары акампаніравала вучаніца Караліна Залеўская. Маладая „піяністка" добра справілася з цяжкай задачай.

Усе апісаныя ўрачыстасці былі даволі дбайна падрыхтаваныя. Аднак мне чагосьці ў іх не хапала, штосьці мне перашкаджала. Людзі святкавалі польскае свята нібыта забыўшыся, што тут не цэнтр Польшчы, што тут своеасаблівае месца. Тут жывуць не толькі палякі-католікі. Тут ёсць і праваслаўныя, якія часам лічаць сябе беларусамі, а часта іхняя тоеснасць не чыста польская. Варта было б, каб успомніць пра Кастуся Каліноўскага пры нагодзе студзеньскага паўстання ці пра гэнерала Станіслава Булак-Балаховіча каля помніка маршалу Язэпу Пілсудскаму. Ды ўспомніць, што ў сённяшняй Рэчы Паспалітай свае месца маюць таксама іншыя нацыі... Ну што ж — цяпер можам спакойна аддацца шалу падрыхтоўкі да Каляд ды чакаць сяброўскіх жэстаў у радасны час Раства Хрыстова.

## Юныя валейбалісты

23 лістапада 2012 г. у Белавежы адбыўся Павятовы турнір школьных спартыўных клубаў па валейболе хлопцаў паўднёвай групы. Удзельнічала чатыры каманды з Гайнаўкі, Кляшчэляў, Нараўкі і Белавежы. Пераможнай камандай аказаліся валейбалісты з Кляшчэляў. Чарговыя месцы занялі адпаведна каманды з Нараўкі, Гайнаўкі і Белавежы. Трэнерам пераможнай каманды з'яўляецца настаўнік фізкультуры Эдуард Тэрэбун. Паўфінальныя спаборніцтвы з удзелам пераможнай каманды з Кляшчэляў, чэмпіёнаў Сямятыцкага і Монецкага паветаў ды віцэ-чэмпіёна Беластоцкага павета былі назначаны на 6 снежня.

У гэты дзень у Кляшчэлях на паўфінальных спаборніцтвах паўднёвай групы хлопцаў па валейболе сустрэліся каманды з Монек, Клеасіна, Дзядковічаў і Кляшчэляў. І тут таксама перамаглі кляшчэлеўскія валейбалісты. За імі апынуліся каманды з Монек, Дзядковічаў і Клеасіна. Як сказаў трэнер кляшчэлеўскай каманды Эдуард Тэрэбун, фінальныя спаборніцтвы адбудуцца яшчэ ў гэтым годзе. Дзе будуць праведзены, яшчэ невядома. Па меркаванні суразмоўцы, магчыма ў Кляшчэлях, за што ён хадайнічае. Але аб гэтым вырашаць прадстаўнікі школьных спартыўных клубаў.

**Уладзімір СІДАРУК**

## Адгаданка

1. замазка для акон, 2. хакей, футбол або бокс, 3. хвароба скуры з дробным свярбячым сыпам, 4. правы прыток Прыпяці ў Пінскім раёне, 5. частка адзення, што пакрывае руку, 6. белы клён, 7. перыяд бесперапыннага п'янства, 8. язык звана, 9. NaCl, 10. месца, на якім сядзяць, 11. прадмет адзення з падэшвай і абцасам, 12. прозвішча беларускага авіяканструктара савецкіх штурмавых самалётаў, м.інш. Су-2, 13. дробны паразіт на чалавечай галаве (*Pediculus humanus*).

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка. **(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 47 нумара**

Агава, агонь, бетон, вехаць, голуб, Горы, дом, ом, том, Ханой, Ціса.

Рашэнне: **Хто многа гаворыць, той або многа ведае, або многа хлусіць**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Яну Міхалюку** з Чыжоў і **Міхалу Байко** з Беластока.

# 23.12 — 29.12

**(22.03. — 20.04.)** Набярэшся адвагі і самаўпэўненасці ды без цяжкасцей прабʼеш свае задумы і паставіш на сваім. На працы дадуць табе больш амбітныя заданні. У каханні чакаюць цябе маленькія сюрпрызы. У час поўні Месяца 28.12. спрэчкі з хатнімі, абвострацца канфлікты.

**(21.04. — 21.05.)** Да 25.12. твае поспехі некаторым стануць скулай у горле. Не слухай людзей, якія схочуць намуціць табе ў галаве. Калі шукаеш працы, удасца прабіцца табе праз шматлікую канкурэнцыю або дзікай удачай якраз твае CV апынецца ў руках работадаўцы. Бякі пасля хваробы павінны лепш карміцца.

**(22.05. — 22.06.)** Вакол цябе немалая група прыхільнікаў і аматараў. Блізняты без працы атрымаюць вельмі цікавую часовую прапанову, з шанцамі на будучыню. Блізняты, якія апякуюцца людзьмі, могуць спадзявацца падзякі. Каб у будучым годзе спадарожнічала табе ўдача, зрабі талісман: на зялёную нітку нанізы кавалачак карала, бірузу і бурштын і павесь яго ў хаце.

**(23.06. — 23.07.)** Не страціш таго, што маеш і здабудзеш тое, што табе наканавана. Паявіцца шанц на лепшае жыццё. Добры час папоўніць свой гардэроб якаснымі і прыгожымі рэчамі. Поўня Месяца 28.12. прымусіць цябе да змены планаў, з якімі вязаў ты вялікія спадзяванні. У суботу магчымыя бесталковыя паводзіны, справы і дзеянні, якія трэба будзе перарабляць нанова.

**(24.07. — 23.08.)** Паправіш адносіны з хатнімі і палагодзіш прафесійныя канфлікты. Ды 24-28.12. могуць аднавіцца старыя крыўды, а блізкая асоба можа аказацца страшнай эгаісткай. Калі схопіць цябе прастуда, выпʼеш лякарства, кусне́ш часнок і лёгка „пацягваючы" кінешся ў забаву. Раптам могуць паявіцца нечаканыя грошы — маеш шанц выйграць у латарэю, і толькі за адну стаўку!

**(24.08. — 23.09.)** Адчуеш сябе слабейшым, можа прычапіцца да цябе інфекцыя і апынешся ў ложку. Калі ты самотны, не сядзі дома, выйдзі з сябрам — у апошнія дні года можаш сустрэць сваю палавінку! Чакае цябе фантастычная любоўная гісторыя! А аднаму твайму сябру спатрэбіцца твая канкрэтная дапамога.

**(24.09. — 23.10.)** Зноў станеш моцна на ногі. Пільнуй свой язык — не нагавары зашмат неадпаведнай асобе. З далейшай сямʼёй могуць чакаць цябе непрыемныя трэнні. Пакупкі рабі з калькулятарам у далоні, не паддавайся рэкламным хітрыкам. У чацвер або ты ўспомніш пра грошы, або яны ўспомняць пра цябе.

**(24.10. — 22.11.)** Не варта вяртацца да былога. 25-29.12. — час карысных змен. Будзеш адважны, прадпрымальны, рэалізуй доўгатэрміновыя планы. Можа паявіцца нейкая цікавая прафесійная прапанова. У банку і інтарэсах гуляй у адкрытыя карты. У апошнія дні снежня будзеш святкаваць нейкі поспех.

**(23.11. — 22.12.)** Прыйдзецца табе страціць крыху часу на тое, каб уразіць свае атачэнне, у далейшым гэта акупіцца. Наступае цудоўны перыяд для атрымання новых ведаў і здабыцця новага вопыту. Можаш закласці добрую аснову для будучых фінансавых поспехаў. Глядзі пад ногі ў аўторак. Не падмятай падлогі ў сераду. У чацвер не канфліктуй з супрацоўнікамі.

**(23.12. — 20.01.)** 23-30.12. маеш шанц на немалы поспех, асабліва ў прафесійным плане. Развяжацца мех з прапановамі; паспяшайся з выбарам, бо можа каля носа праляцець табе жыццёвая нагода. Сітуацыя ў фірме будзе патрабаваць тваёй рашучасці, розуму і лагічнага аналізу. 28.12. можаш быць нервовы і з кімсьці паспрачацца.

**(21.01. — 19.02.)** Хаця твае мары і рэальнасць здаюцца быць аддаленымі адно ад аднаго, ты пачні ажыццяўляць іх. Будуць цябе слухацца і раіцца. Будзе пару нервовых сітуацый, хтосьці схоча ўваісці табе ў дарогу і папсаваць планы. У панядзелак дакладна лічы рэшту ў краме. У аўторак не сціпай, не тчы і не бяры ў рукі верацяно. Чацвер — час нечаканых і незвычайных вестак. Не лячыся хатнімі спосабамі, асабліва калі маеш праблемы з крывацёкам.

**(20.02. — 21.03.)** Тыдзень поўны паездак, моцных эмоцый і бурліва выяўленых пачуццяў. Спадзявайся дробных мілых падарункаў. Не ўцякай ад ветлівых і спрыяючых табе людзей. Пазбягай кампанейскага гоману, агрэсіўных асоб і не тапі тугі ў алкаголю.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.iig.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.iig.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Мірослава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00]. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy" w 2013 roku — 52.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

Зноў пачну з чыгункі, бо гэтая ўстанова акурат на парозе рашучых змен на нашай тэрыторыі. Можа хто спытаць: а чаго ж я так за тую чыгунку ўчапіўся? А гэта, магчыма, таму, што ў „мой” час чыгунка займала важнае месца ў жыцці значнай часткі нашага вясковага тады насельніцтва. Некаторыя мае класныя сябры з гайнаўскага белліцэя праводзілі значную частку свайго тадышняга жыцця ў вагонах і вакзалах, даязджаючы ў школу з усіх ваколгайнаўскіх напрамкаў. Цяпер жа вучні „маёй” школы пражываюць у самой Гайнаўцы і, мабыць, знойдуцца ў іх ліку і такія, якія поездам і не ездзілі. Вось недзе каля 1960 года мой клас ездзіў поездам у Бельск пабачыць у тамашнім кіно фільм „Крыжакі”, а калі б цяпер чаго трэба было ехаць з Гайнаўкі ў Бельск, без аўтобуса не абышлося б...

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# За Кляшчэлямі



**Вакзальны будынак у Кляшчэлях**

Яшчэ нядаўненька, тыдзень раней, выязджаў я з Беластока ў напрамку Чаромхі а палове сёмай раніцы, а ў першых днях снежня расклад неспадзявана памяняўся і цяпер той поезд стаў адпраўляцца на гадзіну пазней. А гэта істотная змена, бо раней можна было ў Чаромсе перасесціся на чарговы поезд — у напрамку Седльцаў. Цяпер гэта ўжо немагчыма; немагчыма таксама даехаць на той поезд міні-аўтобусам „Ваяжора”. А з пачаткам чарговага года той беластоцка-чаромхаўскі поезд мае спыніць сваё курсіраванне ў будзённыя дні, шэсць тыдняў мае паездзіць толькі па суботах, а пазней і поўнасцю з’ехаць у Лету. Мае астацца толькі адзін ранішні курс у Беласток і пасляабедні ў Чаромху; але, мабыць, і гэта ненадоўга...

На адрэзку ад Бельска-Падляшскага да Чаромхі знесены ўжо невялічкія пачакальні ў Падбеллі, Рыгораўцах і Сухавольцах; асталіся там толькі пероны. Невялічкая пачакальня ў Леўках ужо моца зруйнаваная. Толькі ў Кляшчэлях стаіць драўляны станцыйны будынак з канца XIX стагоддзя, дзе вокны памяшканняў першага паверха забіты бляхай. Мяркую, што загадчыкі чыгуначных нерухомасцей маюць толькі клопат з гэтым будынкам, бо не могуць яго знесці, беручы пад увагу яго арыгінальнасць, якая ахоўваецца захавальнікамі даўніны. І той будынак, здаецца, будзе так стаяць, аж пакуль сам не развaліцца пад прыгнётам часу. Гэта архітэктурны помнік, які можна глядзець толькі звонку. Сумняваюся, ці разважаў хто магчымасць яго пераносу ў нейкі скансэн, дзе б цікаваму наведвальніку можна было яго аглядаць і з сярэдзіны. Магчыма, што з паступовым закрываннем чыгуначных ліній запустуюць і так ужо амаль пустыя станцыйныя будынкі ў навакольных Бельску, Гайнаўцы і Чаромсе. І тады мясцовыя ўлады маглі б рэкамендаваць турыстам адмысловы турмаршрут па чыгуначных запаведніках, накшталт прыродазнаўчых маршрутаў ці гасцінцаў даўняга жыллёвага ці культавага будаўніцтва...

Гэтым разам маё чыгуначнае падарожжа выпала ў марозную раніцу. Сённяшні чалавек пабойваецца лютых маразоў, але ж яны ў ходзе кліматычных змен на працягу апошніх дзесяцігоддзяў сталі своеасаблівым рарытэтам, быццам яны — маразы — былі нейкім чынам прывязаны да курсіравання паяздоў у нашым наваколлі. Даўно закрыты чыгуначныя маршруты з Гайнаўкі ў Белавежу, Бельск і Цісоўку, гэтак жа як і з Беластока ў Зубкі; цяпер жа, здаецца, прыходзіць чарга і на наступныя. Але поезд мае ў мяне яшчэ іншую карэляцыю з маразам — менавіта з поезда выдатна праглядаюцца марозныя ландшафты, асабліва ж з няспешнага цягніка, што калясіць па тутэйшых рэйках. Снег побач „жалезных” дарог бездакорна белы — не забруджвае яго ні сажа з паравозаў, ні балота з аўтамабільных шын. І аглядаць ландшафт выгадна з ізаляванага ад марозу і ветру вагона. А перад гледачом прасоўваюцца цудоўныя кадры-карціны бела-каляровай графікі, якія ў дэталях можна разглядаць як невялікія нацюрморты са снегавых гронак, а больш агульна — як незвычайную кампазіцыю тых прыродных эцюдаў. Ад самога Беластока амаль да Бельска і ад Леўкаў да Кляшчэль.

Злажу я з поезда менавіта ў Кляшчэлях. Можа хто, каму фамільярная тамашняя тапаграфія, запярэчыць, што поезд спыняецца не ў Кляшчэлях, а кіламетр ад горада. Але Кляшчэлі, калі глянуць на іх тапаграфію, з’яўляюцца асаблівым горадам — гэта трыгарад, *tripolis, trójmiasto* — з трох частак яны. Першая частка гэта тая частка, дзе месцяцца галоўныя гарадскія ўстановы — магістрат, храмы, школа, „Гладышка” і г.д. Гэта гістарычнае ядро горада і гэта яго найстарэйшая частка. Чарговай часткай з’яўляецца наваколле чыгуначнай станцыі са згаданым раней гістарычна-архітэктурным помнікам...




Царскія будаўнікі чыгункі ў нашым наваколлі пракладвалі пуці так, каб яны міналі гарады, каб тыя гарады, якія раней набылі польскі характар, таго характару не мацавалі шляхам гаспадарчага росту, які несла за сабою чыгунка. Праўда, на захадзе Злучаных Штатаў Амерыкі пракладчыкі чыгункі таксама клалі пуці не надта блізка гарадоў, а гэта па той прычыне, што чым далей ад іх, тым грунт для выкупу пад лінію быў таннейшы. Калі хто дзіваваўся, што яны кладуць лінію быццам на пустым месцы, дзялкі адказвалі, што калі чыгунка не прыйдзе ў горад, то горад пасля сам прыйдзе да чыгункі. Да таго ж цана раней купленых калачыгуначных участкаў расла, што давала інвестарам дадатковы прыбытак. Здаецца, што і ў Кляшчэлях горад пайшоў за чыгункай і вакол станцыі вырасла яго чарговая частка; у палове XX стагоддзя там была пабудавана машынная станцыя для абслугоўвання сельскагаспадарчай тэхнікі — ПОМ. А крыху далей неўзабаве вырасла і трэцяя частка — пэгеэр. Цяпер гэтыя абодва рухавікі сацыялістычнага будаўніцтва нашых вёсак спяць сваім вечным сном. Некаторыя помаўскія будынкі развальваюцца, некаторыя занялі прыватныя фірмы, толькі двухпавярховы, бадай адміністрацыйны, шэры будынак, які вонкавым абрысам нагадвае піраміду, як гэта прыстоіць пірамідзе, стойка змагаецца з часам.

Не лепш справа выглядае і з былым пэгеэрам. Вось побач жылых постпэгеэраўскіх будынкаў, каля шашы ў напрамку Пятроўшчыны, стаяла жанчына са звернутай торбай пад пахай. Чакала яна самахода ў напрамку Кляшчэль; значыць у напрамку найпершай часткі горада. Спытаў я яе пра тамашнюю краму, пустую, але з надта старой шыльдай. Паінфармавала яна мяне, што раней быў там нават рэстаран, пасля асталася крама, крама была добрая, добры ўласнік быў, але калі людзі з таго постпэгеэраўскага „аграгарадка” займелі самаходы, перасталі ў краме купляць і ўласніку прыйшлося яе закрыць; зараз заязджаюць туды аўтакрамы. Вось так у аддаленых мясцовасцях механізаваўся гандаль: пакупнікі селі на машыны і тавар таксама ўзваліўся на самаходы.

Кляшчэлеўскі „аграгарадок”, які атрымаў назву Акацыевай вуліцы, складаюць гаспадарчыя збудаванні і жылы квартал з шасці трохпавярховых „хрушчовак”. Вікіпедыя: *Chruszczowka — potoczna nazwa rozpowszechnionego w Rosji i republikach byłego ZSRR rodzaju budynku mieszkalnego wykonanego z wykorzystaniem technologii wielkiej płyty lub cegły. Był masowo budowany w latach 1959-1985. Najczęściej miał 5 pięter (licząc z parterem, który w ZSRR był pierwszym piętrem), a swoją nazwę czerpał od nazwiska I sekretarza KPZR i przywódcy państwa radzieckiego Nikity Chruszczowa, za którego rządów rozpoczęto na skalę masową budowanie tego rodzaju budynków. Pierwsze domy, nazwane później „chruszczowkami” pojawiły się w ZSRR wraz z dotarciem do Kraju Rad stworzonej na Zachodzie w latach 20. i 30. technologii prefabrykacji budowlanej i hitlerowskiej idei budowy tanich, szybkich w produkcji domów mieszkalnych dla mas...* Польска-, чэшска-, а нават нямецкамоўныя адносныя тэксты Вікіпедыі неяк сарамліва абмяжоўваюць „хрушчоўкі” толькі да Савецкага Саюза, а яны ж, за ўзорам „старэйшага брата”, будаваліся і ў „дружественных странах”. У асаблівай павазе яны ў Беларусі, калі ў іншых былых рэспубліках яны папросту разбураюцца, беручы пад увагу іх нядоўгавечны рэсурс: *Ich tani i tandetny sposób budowania nie był przewidziany do użytkowania na dłużej niż 25-30 lat. Zajmując atrakcyjne tereny i jednocześnie stwarzając zagrożenie dla ich użytkowników, są coraz droższe w utrzymaniu*. А гаспадарчыя збудаванні кляшчэлеўскага „аграгарадка”, як паінфармавала мяне субяседніца, зараз пустуюць і іх разбураюць навакольныя хуліганы...

Чаму такі лёс спаткаў кляшчэлеўскіх „тыграў” будаўніцтва новага вясковага ладу? Вось вытрымка з беластоцкай штодзёнкі з канца кастрычніка 1953 года: „Kierowniczkę świetlicy gminnej w Kleszczelach (...) zastaliśmy nad rozłożonym arkuszem brystolu. Czas nagli. Obowiązkowe dostawy muszą być wykonane do 31 bm., a chłopi z gminy Kleszczele opóźniają się. Wielu zwleka z dostawami słuchając kułackich plotek o rzekomym umorzeniu przez państwo wszystkich zaległości. Ale świetlica czekać nie będzie. Na białym brystolu znalazły się nazwiska opornych (...), którzy używają rozmaitych łgarstw, by oszukać państwo, aby okraść robotników i żerować na przodujących chłopach z innych gromad. Pod listą popleczników kułackich i kułaków rozsiadł się kułak na pękatych workach napełnionych zbożem i duma, w jaki sposób ukryć zboże. Przez takich właśnie, jak on, gmina wykonała zaledwie 55 proc. rocznego planu dostaw zboża”. І да гэтага можна дадаць, што праз такіх менавіта і правалілася будаўніцтва „светлай будучыні”.

Пры дарозе паміж былым помам і былым пэгеэрам, значыць па Акацыевай вуліцы, самотна стаіць вузкая і высокая белая мураваная каплічка, характэрная для наваколля Кляшчэль, узведзеная, мабыць, яшчэ ў царскі час. Завершана яна скромным праваслаўным жалезным крыжам, але ў ейным „алтары” стаіць і размаляваная аблезлай ужо фарбай жаночая фігурка, значыць чыста каталіцкі атрыбут. Гэта ў цэласці адлюстроўвае экуменічную мясцовую шматканфесійнасць. Толькі калі б вось гэта пабачыў нейкі, сказаць, іерарх, адразу заключыў бы, што святыня некананічная. Бо паводле праваслаўных тэолагаў памаляваная плоская дошка з’яўляецца сакрум, затое гэтак жа памаляваны трохмерны аб’ект не падлягае пакланенню. Мабыць гэта праява ўсходняга аскетызму, абмяжоўваючага сакрум адно да найпрацейшай двухмернай прасторы; так як кватэры да клеткі-хрушчоўкі...

(*працяг будзе*)

ISSN 0546-1960